7 лютага 2020 | № 5 (664)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**«Прымусіць пачуць голас жывёлаў!»**

Стар. 8



# Як зняць карону з каронавіруса?



Сяргей ПУЛЬША

**Беларусы — людзі дзёрзкія, нічога і нікога не баяцца. Увесь свет закрывае авіярэйсы ў Кітай з нагоды каронавіруса, людзі ў паніцы скупляюць медычныя маскі, знакаміты «Аліэкспрэс» церпіць страты, а ў той жа час Лукашэнка прызначае новага пасла ў КНР.**

Добрая спроба пазбавіцца ад Мікалая Снапкова. Тым больш, што Аляксандр Рыгоравіч двухсэнсоўна заявіў: «Рэалізуеце задачы за год — значыць, вернецеся. За два — значыць, два. Важны вынік». Маўляў, а падхопіш там заразу — і не шкада. Значыць, рэалізаваць не атрымалася.

З іншага боку, у Мінск вяртаецца Кірыла Руды, якога называюць «увасабленнем эканамічных рэфарматараў сярод беларускіх чыноўнікаў». На якую пасаду ён прыйдзе — невядома. Аднак сам па сабе факт цікавы, бо яго голас ва ўрадзе, па-першае, заўсёды быў важкім, а па-другое — адрозніваўся ад агульнапрынятай нацыянальнай эканамічнай мадэлі. Прынамсі, ён папулярны эканаміст як сярод чыноўнікаў, так і сярод недзяржаўнай экспертнай супольнасці.

Галоўнае, каб ён не прывёз той самы вірус.

Што да Рудага, то варта зазначыць — ён і ў ролі пасла спрацаваў даволі добра. Прынамсі, на заканчэнне яго кадэнцыі пяць грамадзянаў Беларусі былі эвакуяваныя з таго самага эпідэмічна небяспечнага Уханя. А ў Паднябесную з Сінявокай злётаў ІЛ-76, які даставіў кітайскім медыкам 20 тон гуманітаркі — найперш лекі, медыцынскае адзенне і сродкі дэзінфекцыі. Туды-сюды беларускія лётчыкі злёталі нармальна.

А яшчэ ў «Вялікі Камень» павінны вярнуцца каля 400 працоўных з Кітая. На фоне панічных паведамленняў пра новую смяротную хваробу нашы грамадзяне таксама занепакоеныя: а што калі яны прыедуць — і нам усім капец? Праўда, праблема з тым самым «калі яны прыедуць» ва ўмовах фактычнай блакады авіязносінаў з КНР. І, канешне ж, айчыннае Мінздароўя не спіць у шапку: вядома ж, іх будуць правяраць на наяўнасць хваробы.

Прынамсі, нас запэўніваюць, што ў краіне арганізаваны шырокі лабараторны кантроль. У Нацыянальным аэрапорце не пройдзеш пашпартны кантроль без кантролю цеплавізара. Людзі, што прыязджаюць да нас з «небяспечных» краін, могуць здаць аналізы на вірус, вынікі будуць гатовыя на працягу 4–12 гадзін, у краіне ёсць неабходныя для гэтага тэст-сістэмы. А беларускія ВНУ на два тыдні працягнулі канікулы кітайскім студэнтам, якія з'ехалі дадому на навагоднія святы. Да гэтага часу ў Беларусі новай хваробы не зафіксавана.

Між тым, паніка вакол каронавіруса цалкам не зразумелая. У Мінску ў пэўных аптэках скончыліся маскі. А днямі я і ўвогуле прачытаў матэрыял у слуцкім «Кур'еры», у якім апытвалі, чым жывуць жыхары вёсак Слуцкага раёна. Адна з топавых навінаў — так, каронавірус. Хаця, падавалася б, дзе Кітай, а дзе Слуцкі раён?

Зразумела, сродкі масавай інфармацыі любяць нагнятаць паніку. Ім ад гэтага добра — наклады і прагляды растуць, людзі цікавяцца, непакояцца і гэтак далей. Але часам гэтая паніка раздзьмуваецца на роўным месцы. Беларускае тэлебачанне на сваім сайце палохае: колькасць ахвяр новага тыпу каронавіруса перавысіла колькасць тых, хто памёр ад атыповай пнеўманіі — SARS. Загаловак кідкі, так і хочацца схавацца ў бамбасховішча і з людзьмі не стасавацца. Аднак толькі потым паведамляецца, што ад SARS ва ўсім свеце загінулі 350 чалавек, а ад новага віруса — 560.



Фота www.foreignpolicy.com

Для параўнання: за год у дарожна-транспартных здарэннях у Беларусі гіне каля тысячы чалавек. А вірус грыпу «іспанка» напачатку мінулага стагоддзя забраў жыцці каля 100 мільёнаў (!) чалавек.

Істэрыі дадаюць і «канапавыя эксперты», і проста людзі, што лёгка паддаюцца паніцы. У сацсетках і месенджарах з'явіліся паведамленні пра небяспеку... бананаў! Яны, нібыта, разносяць той вірус па свеце. Хаця медыкі кажуць, што новы каронавірус падобны на птушыны грып, то-бок ён жывёльнага паходжання, — меркавана, ад кажаноў, якіх з'елі змеі, якіх з'еў чалавек. А ў беларускай кухні есці змеяў не прынята.

> **СМІ любяць нагнятаць паніку. Але часам гэтая паніка пашыраецца на роўным месцы**

Што да бананаў, то Кітай бананы вырошчвае выключна для ўнутранага спажывання, ён гэтую садавіну не экспартуе.

Шмат пытанняў, ці можна заразіцца праз пасылкі з «Аліэкспрэсу», што ўвогуле глупства. Па словах медыкаў, гэты вірус валодае нізкай устойлівасцю ў навакольным асяроддзі: «на вуліцы» ён жыве некалькі гадзін, а не тыдняў, якія зазвычай ідзе пасылка з Кітаю.

Вірусным захворваннем можна заразіцца толькі пры шчыльным кантакце, напрыклад, пры сумесным пражыванні або даглядзе за пацыентам. Пацверджаныя выпадкі, калі вірус перадаваўся ад чалавека да чалавека, зарэгістраваныя менавіта ў лячэбных установах.

Таму давайце менш панікаваць і слухаць спецыялістаў. Каб абараніцца ад хваробы, медыкі раяць звычайныя рэчы — такія, якія вы робіце пры банальнай эпідэміі грыпу. Захварэлі — сядзіце дома, не гойсайце па грамадскіх месцах, больш гуляйце на свежым паветры, больш піце (не алкаголю, а кампоцікаў!). І проста мыйце перад ежай рукі і садавіну-гародніну. І бананы — ешце на здароўе!

І не хварэйце, нягледзячы на тое, што 11 лютага — Міжнародны дзень хворых людзей.

# Віцебскі блогер высыпаў пад ногі суддзі косці і сеў на 15 сутак

**У суботу, 1 лютага, віцебскі блогер Аляксандр Дуброўскіх быў вызвалены з ізалятару часовага ўтрымання (ІЧУ), дзе адбываў 15 сутак. Ужо на волі, ён расказаў, што «суткамі» яго пакаралі за вядро з касцямі, якое ён кінуў пад ногі суддзі Іллі Белавуса ў яго кабінеце.**

За некалькі дзён да гэтага менавіта Белавус аштрафаваў блогера на 30 базавых велічынь за ўдзел у мінскіх акцыях супраць інтэграцыі.

«17 студзеня мне стала цяжка на душы. І я падумаў, што трэба пайсці ў суд і выказаць ім усё, што я пра іх думаю. Я ўзяў з сабой вядро, косці для сабак і пайшоў. Прыйшоў да гэтага суддзі і сказаў, што ненавіджу яго за тое, што ён займаецца штампаваннем гэтых прысудаў. "Гэта вам падарунак", — кажу. І кінуў гэтыя косці яму пад ногі», — расказаў Дуброўскіх.

Віцяблянін патлумачыў, што гэтым учынкам хацеў выказаць пагарду «да гэтых людзей-робатаў, якія штампуюць прысуды».

Менавіта «за косці для суддзі Белавуса» суд Віцебскага раёна пакараў яго 15 суткамі адміністрацыйнага арышту, прыпісаўшы «хуліганку» і «нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы». Сам Дуброўскіх сцвярджае, што ў кабінеце Белавуса не лаяўся, а «праклінаў культурна».

Што да рэжыму ўтрымання ў віцебскім ІЧУ, блогер прызнаўся па вызваленні, што адчуў там сябе «расчляняльнікам трупаў», бо толькі да «расчляняльнікаў трупаў можна ставіцца так бесчалавечна».

Таксама стала вядома, што падчас адбывання «сутак» Дуброўскіх яшчэ два разы судзілі за акцыі супраць інтэграцыі з Расіяй (арт. 23.34 КаАП).

20 студзеня суд Кастрычніцкага раёна Віцебска аштрафаваў яго на 30 базавых велічынь за ўдзел у мінскай акцыі 21 снежня (суддзя Іна Грабоўская). А 29 студзеня ў судзе Чыгуначнага раёна Дуброўскіх аштрафавалі на такую ж суму за ўдзел у віцебскім пікеце 29 снежня.

Такім чынам, разам са штрафам, прысуджаным Белавусам, Аляксандр Дуброўскіх аштрафаваны агулам на 90 базавых велічынь (2430 рублёў) за ўдзел у акцыях у падтрымку незалежнасці і 15 суткамі — за акцыю «з касцямі для суддзі».

**Паводле vitebskspring.org**

# Беларусь–Вялікабрытанія: Санкцыі застануцца, візы — таксама

НЧ

**Ці паўплывае брэксіт на стасункі Беларусі і Вялікабрытаніі? Чаго чакаць жыхарам абедзвюх краін? На гэтыя і іншыя пытанні журналістаў адказала амбасадарка Яе Вялікасці Жаклін Перкінс.**

Спадарыня Перкінс падкрэсліла, што для Вялікабрытаніі брэксіт — гэта вялікі шанец прадэманстраваць, што «глабальная Брытанія» — гэта новыя магчымасці з партнёрамі ў ЕС і ва ўсім свеце, гэта новыя гандлёвыя дамовы на новых рынках, што пацвердзіць пазіцыю Вялікабрытаніі як ліберальнай і свабоднай гандлёвай нацыі».

«Мы амбіцыйная нацыя з маштабнымі ідэямі, што мае на мэце не згубіць новыя магчымасці», — сказала амбасадарка.

Што тычыцца стасункаў з Беларуссю, то брэксіт прынцыпова нічога не зменіць. Як і раней, вялікая ўвага будзе аддавацца развіццю эканамічных адносін, але правы чалавека і тэма смяротнага пакарання таксама застануцца нязменнымі тэмамі ў дыялогу Лондана і Мінска.

«Цяпер я не бачу вялікіх зменаў у адносінах паміж Беларуссю і Вялікабрытаніяй пасля яе выхаду з ЕС. За апошнія тры гады нашы адносіны значна пашырыліся. Спадзяемся, што мы будзем супрацоўнічаць з Беларуссю ў пытаннях гандлю. Але мы працягнем абмяркоўваць з кіраўніцтвам Беларусі і пытанне правоў чалавека. Я думаю, што нашы адносіны з Беларуссю дастаткова моцныя, каб абмяркоўваць такія тэмы», — сказала Жаклін Перкінс.

Не будзе зменаў і адносна санкцый да Беларусі, яны застануцца ў тым жа аб'ёме, што і былі. «І як у выпадку з ЕС, рэжым санкцый будзе пераглядацца штогод. Каб нешта змянілася, нам трэба зафіксаваць вялікі прагрэс у сферы правоў чалавека. Мы бачым, што ў беларусаў ужо ёсць пэўны прагрэс у гэтай сферы, і мы будзем заахвочваць яго», — працягнула спадарыня Перкінс.

«Прагрэс» у сферы правоў чалавека, па меркаванні спадарыні Перкінс, у тым, што магчымы дыялог паміж грамадзянскай супольнасцю і ўладамі.

Калі хтосьці спадзяваўся, што зменіцца візавы рэжым паміж нашымі краінамі, то дарэмна. Хаця б таму, што і раней Вялікабрытанія не ўваходзіла ў шэнгенскую зону. Так што, як і раней, беларусам для падарожжа ў гэту краіну патрэбна будзе віза.

Дарэчы, за дзевяць месяцаў мінулага года каля 13 тысяч беларусаў падалі заяўкі на атрыманне брытанскай візы. Не меншая колькасць брытанцаў наведала Беларусь і па бязвізу, і па беларускіх візах.

# Дуля ва ўсходнім кірунку

Анастасія ЗЕЛЯНКОВА

**Аж на душы цяплее ад такой сусветнай неабыкавасці да лёсу нашай радзімы, і ўжо нават хочацца пажадаць поспеху «дыктатару»-працаголіку, які не пашкадаваў свой выходны дзеля выратавання незалежнасці Беларусі. Але неяк сам сабой усплывае сюжэт дзесяцігадовай даўніны.**

Апошнія дні хто толькі ні хацеў нас выцягнуць з «братэрскай» ямы, якую нашы саюзнікі ўзмоцнена асушваюць сваімі падступнымі планамі. Латышы гасцінна адкрываюць свае парты для транзіту, польскія дыпламаты абяцаюць усялякую падтрымку, а ЗША радыя даць нам усе рэсурсы на 100 працэнтаў — толькі папрасі.

Зрэшты, усе прапановы зводзяцца прыкладна да аднаго: можаце купляць, вазіць, пампаваць, як маглі гэта рабіць і ўчора, і 5 гадоў таму, і нават 25. Прапанова ад ЗША — з гэтай жа катэгорыі.

Вядома, радасць беларусаў зразумелая. У разуменні абывацеляў атрымаць прапанову па нафце ад палітычнага кіраўніцтва краіны — гэта значыць атрымаць выгадную зніжку. З Расіяй, напрыклад, так заўсёды і працавала. Дастаткова было перацерці прэзідэнтам за кубачкам гарбаты з малінавым варэннем — і нафта струменьчыкам цякла ў нашу краіну па самых выгадных цэнах.

Але з ЗША такое дакладна не пракаціць. Складана сабе ўявіць, як у Белым доме Трамп збірае кіраўнікоў нафтавых канцэрнаў і ставіць перад фактам: «З заўтрашняга дня будзеце пастаўляць у Беларусь нафту па цане ніжэй, чым усім астатнім. — Куды-куды? — Мы хочам падтрымаць суверэнітэт і незалежнасць гэтай дзяржавы. — Чаго-чаго? — Ну, і, магчыма, умацаваць свае пазіцыі ў гэтым рэгіёне. Калі атрымаецца». М-м, якая выгадная прапанова!

Не, у ЗША інтарэсы бізнесу і палітыкі — гэта як мухі і катлеты. Іх перасячэнне магчыма толькі ў выпадку, калі гэтыя катлеты першапачаткова прызначаліся для мух і дадзенае перасячэнне выгадна і мухам, і катлетам, а не канкрэтнаму таварышу з Белага дома. І ўжо тым больш не таварышу з дому на Карла Маркса.

Напэўна, цяперашняе багацце прапаноў ад уладных людзей цешыць самалюбства беларускага кіраўніцтва: маўляў, глядзіце, якія мы запатрабаваныя! Але атрымаць прапанову і скарыстацца ёю — гэта дзве вялікія розніцы. Тым больш, што і прапаноў, па вялікім рахунку, няма.

Але нават калі і будуць, то беларусам рана паціраць рукі і круціць дулі ва ўсходнім кірунку. Хочацца нагадаць пра 2010 год і падзеі, якія таму папярэднічалі. Бо тады Расія і Беларусь таксама моцна пацапаліся напярэдадні выбараў. І гэтак жа ў нашу краіну заспяшаліся замежныя ластаўкі, гатовыя паабяцаць нам «залатыя горы» ўсяго толькі ўзамен на «добрыя паводзіны» на выбарах. І, дарэчы, тады прапанова была сапраўды важкая — 3 мільярды еўра, якія Беларусь змажа атрымаць ад ЕС у выпадку правядзення дэмакратычных выбараў.

«Ён абяцаў!» — не хавалі свайго захаплення міністры замежных спраў Германіі і Польшчы пасля сустрэчы з Лукашэнкам. І нават сам адрасат задаволена пагладжваў свой жывот, у думках ужо пералічваючы еўрапейскія грошыкі.

Але дзясяткі тысяч пратэстоўцаў на плошчы моцна выцвярэжваюць. І зноў пад крылом такіх жа «чорненькіх» і «аўтарытарненькіх», хай і з імперскімі замашкамі, аказалася ўтульней і цяплей, чым на цвёрдай падлозе еўрапейскай дэмакратыі, на якой трон чамусьці стаіць вельмі няўстойліва.

Многія цудоўна памятаюць, чым усё скончылася 10 гадоў таму. І цяпер гэты сюжэт, быццам, зноў паўтараецца. Зноў напярэдадні выбараў паміж саюзнікамі напальваюцца жарсці, сусед хоча танней «купіць» тое, што дрэнна ляжыць, а беларускія ўлады, ганарліва адвярнуўшыся, становяцца раптам такімі абачлівымі і неабыякавымі да еўрапейскіх дэмакратыяў і іх ганцоў.

Таму прапаноў сёння можа быць незлічонае мноства. У тым ліку і вельмі выгадных. Але ёсць адна вялікая праблема. Абірáць, у які бок нам падаць, будзе адзін канкрэтны чалавек. А ён абірае заўсёды аднолькава — сябе, любага. Па-за залежнасцю ад таго, наколькі выгадна гэта ўсёй краіне. І ніякіх іншых крытэраў тут няма.

А ўсе гэтыя размовы з нагоды Захаду і Усходу, поўзанне на каленях або ганарлівае ўставанне пакіньце на карысць бедных.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# «Раней ішлі на смерць, а цяпер баяцца атрымаць штраф»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У дзень народзінаў Кастуся Каліноўскага ўшанаваць памяць героя ў Мінску прыйшлі шэсць чалавек.**

Актывісты прыходзяць да гарэльефа Кастуся Каліноўскага ў дзень яго нараджэння штогод. Такія падзеі — у дзень нараджэння і ў дзень смерці героя — павінны мець нацыянальны маштаб, перакананы мастак Мікола Купава.

Ён памятае, як першая мемарыяльная шыльда Кастусю Каліноўскаму з'явілася ў Мінску ў 1988 годзе на тагачасным будынку кінатэатра «Вільнюс» (цяпер Палац барацьбы на вуліцы Каліноўскага).

— Тады сабралася народу, як мінімум, тысяч пяць — так быў узрушым. Выступаў прэзідэнт Акадэміі навук, навукоўцы, гісторыкі, — узгадвае мастак.

Але праз некаторы час шыльду скралі і, як кажуць актывісты, канцоў не знайшлі. Паводле іншай інфармацыі, шыльда ўсё ж была знойдзеная і перададзеная на захаванне ў мясцовае ЖРЭА, паколькі кінатэатр знаходзіўся на рэканструкцыі.

У 2013 годзе новы гарэльеф з'явіўся ўжо на адноўленым будынку. Аднак адкрыццё яго прайшло ціха, без урачыстасцяў.

Як і сённяшняе ўшанаванне нацыянальнага героя, дзеля якога сабралася ўсяго шэсць чалавек, уключаючы журналістку НЧ. На пытанне, чаму такі дзіўны кантраст — на нядаўняе перапахаванне паўстанцаў у Вільню з'ехаліся сотні беларусаў — актывісты даюць розныя адказы.

— Я прыходзіла сюды і ў мінулым годзе, не ведаю, чаму не рабіла гэтага раней. Герояў шмат, але Каліноўскі мне чымсьці блізкі. Хочацца верыць, што мы сёння тут першыя, але не апошнія. Але ўсё ж адна справа — у вольнай Вільні, са сцягамі, нікога не баючыся, прымаць удзел ва ўшанаванні, а іншая — тут, калі людзі ведаюць, што іних нават сцяг не ўздымуць, бо будуць за гэта пакараныя, — кажа актывістка Святлана Каваленка.

— Я лічу, што гэта адсутнасць інфармацыі, бо не кожны памятае, калі дзень народзінаў Каліноўскага. Я сама прыйшла, бо ўбачыла абвестку ў фэйсбуку. Для мяне ён — як сцяг, — дзеліцца яшчэ адна спадарыня.

Ці ёсць у сучаснай Беларусі свой Каліноўскі — і ці патрэбны ён нам? Святлана Каваленка хоча спадзявацца, што ён недзе ходзіць нашымі беларускімі вуліцамі, проста мы яго яшчэ не ведаем. А можа, ён і не адзін такі, гатовы пакласці сваё жыццё за Радзіму.

— Калі чалавек баіцца нават засвяціцца падчас ушанавання памяці Каліноўскага, дык адкуль возьмецца герой, здольны на большае? — задаецца пытаннем актывіст Мікола Бамбіза. — У часы Каліноўскага яшчэ была шляхта, якая насіла ідэі незалежнасці. Людзі памяталі, што яны — ліцвіны, і што маюць за сабой вялікую спадчыну і гатовы былі бараніць яе за зброяй у руках. Людзі выйшлі супраць гармат з косамі! Яны разумелі, што ў іх нічога не атрымаецца, але ішлі на смерць. А цяпер усе русіфікаваныя і вельмі асцярожныя, людзі баяцца нават атрымаць штраф.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не пракаціла

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Улады прызвычаіліся трымаць народ за дурняў, альбо за настолькі абыякавых людзей, што з імі можна рабіць усё, што заўгодна. Але на гэтым тыдні — не атрымалася.**




У сталіцы нашай радзімы ёсць такое прадпрыемства — «Мінсктранс». Яно вельмі не любіць сваіх кліентаў-пасажыраў, але любіць грошы. Як яно толькі не выкручвалася апошнім часам! І кошты на праезд падымала, і надало права кантралёрам спыняць аўтобусы пасярод дарогі для праверкі аплаты праезду, і спрабавала абавязаць тых, у каго няма квіткоў, уваходзіць у транспарт толькі праз пярэднія дзверы... Але гэтага было мала, і нейкія разумнікі вынайшлі новы спосаб параўнальна сумленнага ад'ёму грошай у насельніцтва. Яны высунулі ідэю пра блакаванне валідатараў для аплаты праезду праз 15 секунд пасля адпраўлення транспарту ад прыпынку. Маўляў, хто не паспеў прабіць талончык ці прыкласці праязны — той спазніўся і павінен заплаціць штраф.

Зразумела, такая ідэя людзей абурыла надзвычай. Бо той, хто такую прыдумку выказаў, не толькі не клапоціцца пра пенсіянераў і людзей з інваліднасцю, якія не могуць удзельнічаць у «спрынтарскім забегу да валідатара», але, падаецца, папросту не ездзіў у грамадскім транспарце ў «гадзіну пік». Там не тое што да валідатара дацягнуцца — часам руку падняць нельга.

Таму ў панядзелак на платформе электронных зваротаў у дзяржаўныя органы petitions.by з'явілася адразу некалькі петыцый па слядах транспартных навін. Аўтары звароту наконт «правіла 15 секунд» адзначаюць, што нававўвядзенне ўшчамляе ў правах пажылых пасажыраў, людзей з інваліднасцю, пасажыраў з дзецьмі і вазкамі.

Пабачыўшы надзвычай негатыўную рэакцыю, «Мінсктранс» аператыўна ад ідэі блакавання валідатараў адмовіўся. Аднак людзей было ўжо не спыніць, і на той жа пляцоўцы з'явіўся зварот з патрабаваннем адстаўкі кіраўніцтва «Мінсктранса».

Ім прыпомнілі ўсё: і валідатары па кошце «айфона», і прыняцце непапулярных і антыграмадскіх рашэнняў, і адсталасць грамадскага транспарту Мінска. Сапраўды, нам пастаянна кажуць, што, нягледзячы на рэгулярныя павышэнні коштаў, грамадскі транспарт працуе «ў мінус».

Дарэчы, на гэтым фоне цікавая навіна прыйшла з Гомеля. Там паспрабуюць укараніць аплату грамадскага транспарту праз тэлефон. Як гэта будзе адбывацца тэхнічна, ці будзе гэта адмысловая праграма ў мабільніку — падрабязнасці пакуль не вядомыя. Але сенсацыя ў тым, што ў гэтым абласным цэнтры людзей дагэтуль «абілечваюць» кандуктары. Гомель, калі ў яго ўсё атрымаецца, здзейсніць няхілы тэхналагічны скачок.

«Мінсктранс» жа не здолеў укараніць аплату праезду ўсяго толькі банкаўскай карткай. І дзе ж кампетэнтнасць гэтай установы? Можа, сапраўды яе кіраўніцтву час у адстаўку?

Яшчэ адна навіна з транспартнага фронту тычыцца авіяперавозак. Паводле інфармацыі тэлеграм-канала Nexta, у Лукашэнкі з'явіўся самалёт бізнес-класа Gulfstream G550 з бартавым нумарам EW-001PJ. Самалёт нібыта купіла прыватная аўстрыйская кампанія і перагнала яго ў Мінск. Кошт яго па каталогу складае 61,5 мільёна долараў.

У прэс-службе кіраўніка дзяржавы інфармацыю абверглі. «Ні асабістых, ні прыватных самалётаў у кіраўніка Беларусі ніколі не было, няма і цяпер. І, хутчэй за ўсё, не будзе — зыходзячы з той цаны, якую вы назвалі», — сказала прэс-сакратарка Наталля Эйсмант, адказваючы за пытанне «Радыё Свабода».

У Лукашэнкі ў авіяпарку зараз «Боінг», які быў набыты «бэушным» у лідара Туркменістана, і які, паводле Эйсмант, «даўно выпрацаваў свой рэсурс, тэрміны эксплуатацыі выйшлі». «Сёння якраз стаіць пытанне, дзе знайсці сродкі на набыццё новага дзяржаўнага самалёта. Але грошай на гэтыя мэты пакуль няма, хаця і прапановы ад авіякампаній паступалі», — сказала яна.

І можна было б паверыць у сціпласць Аляксандра Рыгоравіча і яго ашчаднасць што да дзяржаўных сродкаў, але... У прэс-службе Нацыянальнага аэрапорта карэспандэнту той жа «Свабоды» сказалі, што не маюць інфармацыі пра самалёт Gulfstream G550 з бартавым нумарам EW-001PJ, і параілі звярнуцца... у прэзідэнцкую прэс-службу!

То-бок, вы разумееце: самалёт, нібыта, не Лукашэнкі, але пытацца пра яго трэба ў прэс-службе Лукашэнкі. За канспірацыю — «двойка».

І яшчэ адна навіна, якая моцна паўплывае на нашае паўсядзённае жыццё. Бліжэйшым часам айчынныя банкі спыняць выдачу картак растэрміноўкі кшталту «Халвы».

Перавага картак растэрміноўкі для пакупнікоў заключалася ў тым, што растэрміноўка прадстаўлялася фактычна без выплаты працэнтаў. Працэнты банкі атрымлівалі ад прадаўцоў, якія выплачвалі ўзнагароджанне крэдытным арганізацыям у выпадку продажу тавараў у растэрміноўку. Аднак у студзені Нацбанк разаслаў камерцыйным банкам лісты і папярэдзіў аб недапушчальнасці завышаных узнагароджанняў, якія камерцыйныя банкі спаганяюць у прадаўцоў у выпадку продажу тавару ў растэрміноўку. Высветлілася, што часам крамы і іншыя аб'екты гандлю выплачвалі аж да 30% ад кошту тавару ў выпадку афармлення пакупкі ў растэрміноўку. Нацбанк афіцыйна «рэкамендаваў» знізіць памер любога ўзнагароджання, якое выплачваюць банкам арганізацыі гандлю да 4%.

Банкі павінны выканаць прадпісанне Нацбанка да 8 лютага, і пачалі адмаўляцца ад беспрацэнтных варыянтаў. Так, «Прыёрбанк» стаў спаганяць да 6% гадавых з фізічных асобаў у выпадку афармлення растэрміноўкі больш чым на шэсць месяцаў. «Беларусбанк» зусім адмовіўся ад прадукту «растэрміноўка без пераплаты».

Аналітыкі і эканамісты ў цэлым падтрымліваюць рашэнне Нацбанка. У людзей нярэдка ствараецца ілюзія, што тавары ў растэрміноўку прадаюцца амаль бясплатна, паколькі іх купля не патрабуе ні першапачатковых плацяжоў, ні працэнтных выплат. Аднак у рэчаіснасці растэрміноўка — гэта тая ж запазычанасць, якая негатыўна адбіваецца на сямейным бюджэце.

Таму ўсім, хто карыстаецца «Халвой» і падобнымі прадуктамі, варта зайсці на сайт свайго банка і паглядзець, як змяніліся правілы гэтай праграмы. І ўвогуле — пазыкаў лепш не браць.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Вячаслаў Сіўчык

**У дачыненні да лідара Руху салідарнасці «Разам» распачаты беспрэцэдэнтны судовы канвеер.**

Пачынаючы ад панядзелка, 3 лютага, суд Партызанскага раёна Мінска разглядае адміністрацыйныя справы, заведзеныя на Сіўчыка штодзень.

Агулам за ўдзел у пратэстных акцыях супраць паглыбленай інтэграцыі з Расіяй на палітыка былі складзеныя 5 пратаколаў правапарушэнняў. Некалькі разоў з-за адсутнасці Сіўчыка суды пераносіліся, але, відаць, суддзі стаміліся чакаць палітыка і пачалі разгляд пратаколаў без яго ўдзелу ў пасяджэннях.

3 лютага суддзя Барысёнак даў Сіўчыку 15 сутак арышту за ўдзел у акцыі 8 снежня супраць інтэграцыі з Расіяй. 4 лютага той жа Барысёнак пакараў Сіўчыка зноў жа арыштам на 15 сутак за ўдзел у акцыі 20 снежня. 5 лютага суддзя Наталля Дзядкова, якая разглядала чарговую справу, перанесла судовае пасяджэнне на 10 лютага. Наперадзе ў палітыка яшчэ два суды, якія павінны адбыцца ў судзе Партызанскага раёна Мінска 6 і 7 лютага.

Рух салідарнасці «Разам» ужо запатрабаваў скасавання незаконных прысудаў у адносінах да Сіўчыка і іншых беларускіх патрыётаў, якія трапілі пад палітычныя рэпрэсіі за акцыі ў абарону незалежнасці і суверэнітэту Беларусі. А таксама заклікаў беларускую і міжнародную грамадскасць аказаць неабходны ціск на рэжым Лукашэнкі і прыкласці ўсе высілкі для спынення палітычных рэпрэсій у дачыненні да Сіўчыка.



## Юрый Губарэвіч

**Як толькі было абвешчана пра фарміраванне штаба праймерыз і распачаўся прыём заявак ад патэнцыйных кандыдатаў на ўдзел у вызначэнні адзінага кандыдата, заяўку на ўдзел падаў старшыня Руху «За Свабоду».**

У адпаведнасці з працэдурай, для ўдзелу ў праймерыз Губарэвіч прадставіў у штаб выпіску з рашэння Канферэнцыі Руху аб вылучэнні яго кандыдатуры. Рашэнне пра гэта было прынята ў снежні 2018 года, лідар арганізацыі быў вылучаны «кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах 2020 года і ў праймерыз» кааліцыі.

«У мяне сур'ёзныя планы на ўдзел і перамогу ў праймерыз. Гатовы прадстаўляць інтарэсы шырокага кола людзей, якім блізкія еўрапейскія каштоўнасці, дэмакратыя і нацыянальнае адраджэнне», — заявіў Губарэвіч пасля падачы заяўкі.

Палітык перакананы, што ў выпадку, калі ў праймерыз прымуць удзел не толькі актывісты дэмакратычных структураў, але і тая большасць грамадзян, якія патрабуюць пераменаў, можна разлічваць на перамогу.

Нагадаем, што прадстаўнікі пяці палітычных структураў (АГП, БСДП, БХД, Рух «За Свабоду» і Партыі БНФ) правялі 27 студзеня супольную прэс-канферэнцыю, на якой абвясцілі пра пачатак працэдуры абрання адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Заяўкі ад жадаючых удзельнічаць у праймерыз прымаюцца да 16 лютага. Разгляд заявак закончыцца да 3 сакавіка, пасля чаго пачнецца галасаванне ў інтэрнэце і стартуюць паездкі па рэгіёнах.



## Васіль Кірыенка

**Самы вядомы беларускі велагоншчык Васіль Кірыенка сыходзіць з вялікага спорту з-за стану здароўя.**

«Гэта сумны дзень, але я вымушаны прыслухацца да парад лекараў каманды. У мяне была выдатная кар'ера, я атрымліваў асалоду ад кожнага яе моманту», — сказаў 38-гадовы спартовец. Ён таксама ахарактарызаваў свой шлях у веласпорце як неверагоднае падарожжа і падзякаваў прыхільнікам за падтрымку.

Васіль Кірыенка з'яўляецца ўладальнікам чатырох медалёў чэмпіянатаў свету — золата ў індывідуальнай гонцы ў 2015 годзе, срэбра ў 2016-м і двух бронзавых (2012 і 2013 гады), а таксама двух вышэйшых узнагародаў Еўрапейскіх гульняў — у індывідуальных гонках у Баку і Мінску. Гоншчык пастаянна ўдзельнічаў у самых прэстыжных еўрапейскіх спаборніцтвах — «Джыра д'Італія», «Тур дэ Франс» і «Вуэльта Іспаніі». З 2013 года ён прадстаўляў брытанскую прафесійную шашэйную велакаманду Sky Procycling.

а Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Два светы — два лёсы

**На сайце «Незалежнай газеты» 30 студзеня я прачытаў артыкул «Нетаньяху прывёз з Расіі дзяўчыну і любоў выбаршчыкаў». 26-гадовую ізраільцянку завуць Наама Ісахар. У красавіку 2019 года яна была арыштаваная ў транзітнай зоне аэрапорта Шарамеццева і прысуджаная да сямі з паловай гадоў турэмнага зняволення за захоўванне 9,5 грама гашышу. У дзень візіту ізраільскага прэм'ера дзяўчына была памілаваная і паляцела дадому на яго самалёце.**

Далей цытата: «Кіраўнік Цэнтра блізкаўсходніх даследаванняў ІМЭМА імя Я.М. Прымакова РАН Ірына Звягельская ў размове з "Незалежнай газетай" адзначыла, што ў Ізраілі ўважліва сачылі за візітам Нетаньяху ў Расію. "Гэта звязана і з блізкаўсходняй здзелкай, і яшчэ больш — са “справай Ісахар”. Тое, што Нетаньяху змог яе вярнуць дадому, вядома, дадасць яму балаў падчас перадвыбарчай кампаніі", — сказала яна».

Парламенцкія выбары ў Ізраілі адбудуцца 12 сакавіка. Не ў прыклад «Краіне пад белымі крыламі», палітычнага адзінства на Зямлі Запаветнай не назіраецца. Асноўная барацьба чарговым разам разгорнецца паміж блокам «Кахоль-Лаван», што ўзначальвае Бені Ганц, і правай партыяй «Лікуд» Нетаньяху. Паводле апытанняў, «Лікуд» можа разлічваць на 58 месцаў, «Кахоль-Лаван» — на 55.

Сіла Беларусі — у адзінстве. Прынамсі, у гэтым нас рэгулярна пераконвае дзяржаўная прапаганда. Наадварот, сіла Ізраіля — у канкурэнцыі. «Справа Ісахар» была б немагчымая ў краінах, у якіх парламенты не з'яўляюцца месцам для дыскусій. Складана сабе ўявіць, каб адзіны палітык (АП) ці яго расійскі калега асабіста заняліся б лёсам шараговага грамадзяніна, ды яшчэ асуджанага за наркотыкі.

Ну і цаца! І яе яшчэ за дзяржаўны кошт, і не эканом-класам, а на самалёце прэм'ера дадому даставілі. Але коштам авіяпералёту выдаткі ізраільскіх падаткаплацельшчыкаў не абмежаваліся. Захавальнікі духоўных скрэпаў у якасці ўмовы памілавання грамадзянкі Ізраіля высунулі перадачу Расіі Лізавецінскага падворка ў Ерусаліме (гістарычны будынак у комплексе Рускіх пабудоў, плошчай 4 612 м²). І гэта ўмова была выканана!




### «Гэта ключавое»

Мне ўжо неаднаразова даводзілася нагадваць, што дзяржава для народа не варта блытаць з дзяржавай народа. Якая паміж імі розніца? Фармальна — нязначная: у першым выпадку прыназоўнік «для» прысутнічае, у другім — яго няма. Пра што, здавалася б, тут весці размову!

А між тым — розніца прынцыповая. У першым выпадку перад намі тыповая дзяржава бюракратаў, якія, зыходзячы з асабістых інтарэсаў, самастойна вызначаюць, колькі і на якіх умовах выдзяляць народу ад грамадскага пірага. Між іншым, ад таго самага пірага, які народ і выпякае.

Сваю ж долю таго пірага чыноўнікі ад народа імкнуцца хаваць. Варта прызнаць, што робяць яны гэта паспяхова. У прыватнасці, у Беларусі заканадаўчымі актамі не прадугледжаная магчымасць распаўсюджвання інфармацыі пра задэклараваныя даходы чальцоў урада.

А ва ўсіх нашых суседзяў прадугледжаная! Нават у рускіх — тых, што без знака якасці. А нам, відаць, той знак якасці перашкаджае. З ім рана ці позна (хутчэй позна, чым рана. — **Рэд.**) разбярэмся, аднак ёсць больш важкая прычына, імя якой — справядлівасць.

Калі хто забыўся, Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая прэтэндуе на ролю астраўка сумленнасці і справядлівасці. Не я гэта прыдумаў. Не з маёй адукацыяй і не з маім жыццёвым досведам падымацца да такога ўзроўню абагульненняў.

**Галоўным сімвалам новай эры і стаў прыназоўнік «для», што ўкліняўся паміж назоўнікамі «дзяржава» і «народ». Гэта яму чалавецтва абавязанае нараджэннем таталітарных ідэалогій**

«Справядлівасць павінна быць пакладзеная ў аснову ўсіх чалавечых узаемаадносінаў. І дзяржавы з чалавекам у тым ліку», — растлумачыў АП сваё разуменне месца справядлівасці ў беларускай мадэлі 3 лютага 2017 года, а для тых, хто не ўлавіў галоўнага, зрабіў важны дадатак: «Матэрыяльнае становішча дзяржслужачых павінна расці або падаць у адпаведнасці з ростам ці падзеннем жыццёвага ўзроўню нашага насельніцтва. Гэта ключавое».

Але прадэклараваць — гэта адно, а рэалізаваць на практыцы — зусім іншае. Вось для таго, каб грамадзяне не заўважалі разыходжанняў словаў са справай, у дзяржаве для народа і адсутнічае закон пра абавязковую дэкларацыю чыноўнікамі (слугамі народа) сваіх даходаў.

### Жыццё — капейка

«Восень 1917 года кардынальна змяніла ход сусветнай гісторыі. Адзначыла пачатак новай эры чалавечага развіцця, заснаванай на прынцыпах сацыяльнай роўнасці, справядлівасці і гуманізму», — цалкам справядліва заўважыў АП у сваім віншаванні з Днём Кастрычніцкай рэвалюцыі 6 лістапада 2019 года.

Галоўным сімвалам новай эры і стаў прыназоўнік «для», што ўкліняўся паміж назоўнікамі «дзяржава» і «народ». Гэта яму чалавецтва абавязанае нараджэннем таталітарных ідэалогій, імя якім — сацыялізм, фашызм і нацызм. Аб'ядноўвала гэтую тройцу любоў да моцнай дзяржавы і нянавісць да індывідуалізму.

Сваяцтва заснавальнікаў новай (г.зн. неліберальнай) эры адзначаў яшчэ нобелеўскі лаўрэат Фрыдрых фон Хаек у кнізе «Дарога да рабства» (1944): «Няма нічога дзіўнага ў тым, што ў Германіі да 1933 года, а ў Італіі да 1922-га камуністы і нацысты (адпаведна, фашысты) часцей уступалі ў сутыкненне адзін з адным, чым з іншымі партыямі. Яны змагаліся за людзей з пэўным тыпам свядомасці. Але іх справы паказвалі, наколькі яны былі насамрэч блізкія. Галоўным ворагам, з якім яны не маглі мець нічога агульнага і якога не спадзяваліся пераканаць, быў для абедзвюх партый чалавек старога тыпу, ліберал».

«Моцная дзяржава» — законна народжанае дзіцё Першай сусветнай вайны з яе шматмільённымі войскамі і масавай мабілізацыяй цывільнага насельніцтва, без якой забеспячэнне арміі ўсім неабходным на працягу доўгага часу было б немагчыма.

Новая эра будавалася на адмаўленні базавых каштоўнасцяў заходняй цывілізацыі, якія сыходзяць каранямі ў хрысціянства і антычную філасофію. Канчаткова яны сфарміраваліся ў эпоху Адраджэння. Яе асноўнай рысай, як справядліва заўважыў Хаек, з'яўлялася «павага да асобы як такой, г.зн. прызнанне абсалютнага суверэнітэту поглядаў і схільнасцяў чалавека ў сферы яго жыццядзейнасці, якой бы спецыфічнай яна ні была, і перакананне ў тым, што кожны чалавек павінен развіваць уласцівыя яму таленты».

Абмен маладой жанчыны Наам Ісахар на 4 612 квадратных метраў Лізавецінскага падворка — сучасны прыклад савецкага фразеалагізму «Два светы — два лёсы». Абмен гэты варта прызнаць узаемавыгадным, бо ў выніку кожны бок набыў больш, чым аддаў: Ізраіль атрымаў свайго чалавека ў абмен на сваю нерухомасць, Расія прырасла нерухомасцю ў цэнтры Ерусаліма — і нічога пры гэтым свайго не аддала. Да квадратных метраў варта яшчэ прыплюсаваць бонус у выглядзе прадэманстраванай міласэрнасці.

Жыццё — капейка. Якая яшчэ руская прыказка здольная лепш праілюстраваць тое, што ў сучаснай Расіі прынята называць «духоўнасцю»?

### Хавайся ў бульбу

У пачатку 1990-х гадоў нацыянальна арыентаваныя грамадзяне прапаноўвалі замяніць у Беларусі рублі на талеры, а капейкі — на грошы. Безумоўна, такое аднаразовае дзеянне каштоўнасць асобна ўзятых жыццяў не падвысіла б, але яно стала б важным элементам напрамку, па якім варта было рухацца.

Сёння ж, у поўнай адпаведнасці з пачаткам новай эры чалавечага развіцця, якая стартавала ў 1917 годзе ды так і не завяршылася ў Беларусі, калі і можна казаць пра каштоўнасць чалавечага жыцця, то толькі аднаго.

Менавіта гэтым дзяржаўная прапаганда і займаецца на рэгулярнай аснове. Адзін прыклад: «Таму найпершай задачай грамадзян-патрыётаў павінна быць пільнасць, якая тычыцца ўсіх праблем падтрымкі А.Р. Лукашэнкі народнымі масамі. Не забяспечыўшы патрэбнай і своечасовай падтрымкі прэзідэнту, мы ўсе разам патрапім у бездапаможнае і жалю вартае становішча, з якога не будзе выхаду на працягу стагоддзяў» («Рэспубліка», 2005/04/05 №61).

Залатыя словы! Шкада толькі, што ўвасобіць іх у жыццё ў поўным аб'ёме так і не атрымалася. Не верыце? Тым, хто сумняваецца, прапаную звярнуцца да прэс-рэлізу нарады аб першачарговых мерах па забеспячэнні ўстойлівай работы аграпрамысловага комплексу Віцебскай вобласці ад 28 студзеня: «Багатых людзей нямала. Папрасіце ў іх патрошку, хай адшчынкуць вам у гэты фонд, разумеючы, што нам трэба сялян ратаваць (вылучана. — **Рэд.**)».

Сяляне — далёка не «ўсе мы». Доля сельскага насельніцтва ў 2019 годзе склала 21,6%, і ўсе яны трапілі ў бездапаможнае і жалю вартае становішча. І іх у тэрміновым парадку неабходна ратаваць. Але ў дзяржавы для народа сродкаў на выратаванне народа няма. Вось і даводзіцца ёй звяртацца да багатых людзей.

Дажыліся! Хавайся ў бульбу. Адно радуе, што бульба на сялянскіх падворках усё яшчэ расце.



Фота Вольгі Быкоўскай

# Дзе ты, мой адзіны?

Валярына КУСТАВА

**У Беларусі выбараў няма, але калі б былі, то... Альтэрнатыўным кандыдатам хацелася б бачыць асобу моцную, годную, апантаную, якая гарыць ідэяй, як малады Зянон Пазьняк, шляхетнага, адукаванага еўрапейца, як Аляксандр Мілінкевіч у гарачы час 2006-га. Гэта можа быць той ці тая — але лідар з вялікай літары «Л». Не проста шараговы актывіст, не функцыянер, не фанатык, а жывы, яркі, адэкватны, сучасны і папросту адказны. З аўтарытэтам у сваіх перакананнях і дзеяннях. Якому хочацца давяраць.**

## Кандыдат на імпарт ці экспарт?

Давайце ўглядзімся ў твары «блоку пяці». Менавіта пяць палітычных структураў (АГП, БСДП, БХД, Рух «За Свабоду» і Партыя БНФ) салідарызаваліся і прапанавалі працэдуру праймерыз, у межах якіх будзе абраны адзіны кандыдат аб'яднанай апазіцыі. Пакуль эксперты найбольш схіляліся, прымяраючы вобраз адзінага, да кандыдатуры Паўла Севярынца. Але Павел перадусім знаны сваёй вялікай рэлігійнасцю. А кожны божы чалавек ведае, што палітыка — справа не пра веру. А існая вера — не пра амбіцыі.

Севярынец апошнім часам напраўду ўзляцеў і праявіўся як лідар пратэсту, лідар за незалежнасць. І ён акурат ёсць антыподам дзейснаму гаспадару. Але Севярынец жа і чужы бальшыні беларусаў. Задужа правільны ў адным (вера ды маральнасць перадусім) і нецярпімы ў іншым (да прыкладу, непрыманне ЛГБТ-супольнасці, што ў пэўнай ступені супярэчыць еўрапейскім каштоўнасцям). Малітвай можна выратаваць толькі тую частку Беларусі, якая ведае Паўла, шануе яго шчырасць, яго ахвярнасць, яго непахіснасць. Падаецца, Павел — ідэальны кандыдат ідэальнай хрысціянскай Беларусі, якой няма.

Усе кажуць: Севярынец. Але, верагодна, ніхто дарэшты не ведае, хто тым адзіным кандыдатам ад апазіцыі ўрэшце стане. І для каго гэты кандыдат? Для людзей? Каб замацаваць партыйныя пазіцыі? Каб давесці заходнім спонсарам, што «мы яшчэ ого-го!», каб яны паверылі чарговы апошні раз? Дакладней, інačай: калі фінансавання звонку не будзе — усе з радасцю аддадуць пальму адзінага Паўлу. Бо Севярынец — ён не пра рацыянальнасць, не пра грошы, а пра місію. І толькі напраўду святарны чалавек возьмецца праводзіць прэзідэнцкую кампанію без адпаведных сродкаў. Калі ж чаканая падтрымка намалюецца звонку (ці здарыцца цуд — і яна з'явіцца нават знутры краіны), то тут вялікі шанец, што за крэсла адзінага кандыдата будзе змаганне (і не слабое). І тут ужо пераможа той, хто найгаспадарлівейшы і мае найбольш трывалае месца ў міжпартыйных расстаноўках, найкемлівы і найярчэй прагучыць медыйна. Засталося нядоўга чакаць.

## Лідар пратэсту, байкоту ці зменаў?

З іншага боку, калі адзінага кандыдата не зарэгіструюць, гэта стане нагодай для вулічных пратэстаў. І пры такім прагнозе Севярынец — найлепшы варыянт, бо ёсць практыка: за ім ужо пайшлі на вуліцы. Ён ідэальны «левы» ў расстаноўцы «анёл і дэман».

Некаторыя прыхільнікі байкоту пераконваюць, што больш за 80 працэнтаў беларусаў за байкот, але ж напраўду — людзям папросту ўсё роўна. Палітычная апатыя — не голас за байкот. Беларусь на сёння не мае адпаведнага патэнцыялу для эфектыўнага байкатавання. Пакуль Беларусь спіць, прынамсі, адным вокам. Хаця маем яшчэ некалькі месяцаў, каб усё змянілася.

Калі размова пра выбары на галоўную пасаду, ніколі нельга адмятаць шанец, што нешта зменіцца (ці нехта гучны з'явіцца) у апошні момант.

Тое ж і з ідэяй, што актывісты перадвыбарчай гонкі ўдзелам спрыяюць уладзе легітымізаваць працэс. Але каб яно так было, то ў гэтых парламенцкіх выбарах, што папярэднічалі прэзідэнцкім, не існавала б такой жорсткай цэнзуры. А яна сведчыць пра незацікаўленасць сістэмы ў іншых, адрозных, галасах. І чым грамчэй будзе гучаць альтэрнатыўны пункт гледжання, тым мацнейшыя заглушкі будуць настройваць. Значыць, выглядае на тое, што пэўны сэнс удзелу ўсё ж ёсць.

Зрэшты, размова ідзе пра рызыку страты Незалежнасці, таму і не выпадае грэбаваць ці не адзінай законнай магчымасцю «разбудзіць» людзей (без небяспекі быць аштрафаванымі ці закратаванымі) — праводзіць перадвыбарчую кампанію. Як заўжды — з вялікай верагоднасцю расчаравацца ў выніку.

Але ў такім разе трэба іншы кандыдат — спакойны, некрыклівы, паслядоўны, пераканаўчы, устойлівы, як сцяна, важкі з аднаго боку, але харызматычны — з іншага. Без фанатызму. З рацыяй і верай не толькі ў Беларусь і Бога, але і ў сябе. Кандыдат, які б асацыяваўся ў людзей не толькі з лозунгамі, адэкватнымі «абяцаннямі», але і канкрэтнымі дзеяннямі і справамі. Той, хто б не маўчаў да, у часе кампаніі, і не замаўчаў бы пасля яе заканчэння. Хто б выклікаў давер: так, ён здолее, ён зможа.

## Праймерыз: 30% народу

Па сваёй прыродзе людзі не схільныя галасаваць за «вымушанага» адзінага, якога ім абралі. Прыклад Ганчарыка паказаў: калі абірае кандыдата не народ, а нехта іншы (грантадаўцы?), то няма ў тым праўды для людзей. Паводле правілаў праймерыз, пазапартыйныя галасы (прасцей кажучы, галасы простых беларусаў, грамадзянаў) будуць улічаныя ў лепшым выпадку ў 30 працэнтах, перавага мяркуецца на карысць партыйцаў (60 працэнтаў), што ўваходзяць у блок пяці аб'яднанняў-арганізатараў.

30% галасоў незалежных грамадзянаў — гэта пры любых раскладах мала, каб называцца «кандыдатам ад народа». І каб той самы народ не адчуваў сябе чарговы раз выкарыстаным ці надураным. Відавочна, гэты працэнт варта павялічыць. Дый яшчэ ёсць пытанні па самой працэдуры — дзе гарантыі празрыстасці, што не будзе накрутак за таго ці іншага? Прычым не абавязкова нават накрутак ад канкрэтных кандыдатаў, могуць пастарацца і сістэмныя хакеры. Калі ж удзел грамадскасці пашырыць, стварыць напраўду сумленную сістэму падліку, то новаўведзеная працэдура праймерыз не выглядае ўжо такой бездапаможнай і бессэнсоўнай.

З 3 да 16 лютага аргкамітэт прымае заяўкі на вылучэнне кандыдатураў паводле праграмы праймерыз. То-бок, кожны, хто мае 500 еўра (у супольны фонд абранага кандыдата), 200 фрэндаў, гатовых за яго распісацца, і жаданне рызыкнуць за еўрапейскія каштоўнасці і беларускую незалежнасць, можа патэнцыйна стаць кандыдатам у прэзідэнты ад, назавем яго, «блоку адзінага» альбо «блоку пяці».

## Плюсы адзінага–2020

Яднанне ў любым разе лепей за крытыку, высвятленне і ўнутраныя міжусобіцы ды ўзаемакпіны. Адзінства і здольнасць дамаўляцца — гэта заўжды добра. Асабліва для беларускай апазіцыі, якая не меней чым з існуючым рэжымам змагаецца за мізэрныя працэнты цікавасці да кожнай асобна ўзятай партыі і яе кіраўніка паміж самімі ж сабой. Уменне дамаўляцца, аб'ядноўвацца, ісці на кампрамісы, знаходзіць кансэнсус — неабходныя якасці для любога дыпламата і палітыка. Як і ўменне гнуць сваю лінію ды трымацца ідэі.

На супольнага адзінага ад апазіцыі сёння прасцей атрымаць фінансавую падтрымку, чым на «парад кандыдатаў».

Адзіны ўзору 2020 года больш прадказальны, менш нечаканы (бо за ім стаяць арганізацыі, за якія нясецца адказнасць, і кіраўнікі гэтых арганізацый), адзінаму кандыдату прасцей пісаць прамовы, бо трацына там апрыёры закладзеная самім працэсам выбараў ды працэдурай праймерыз, а таксама супольнымі каштоўнасцямі арганізацый, якія прадстаўляе кандыдат.

У адзінага кандыдата ад некалькіх палітычных структураў значна большы шанец сабраць рэальныя, неабходныя 100 тысяч подпісаў.

## Мінусы адзінага–2020

Яго яшчэ няма. Як і часу, за які рабіць перадвыбарчую кампанію. Адзіны кандыдат цяпер — як шматаблічны індыйскі бог Брахма. У яго шмат твараў — і пакуль ніводнага канкрэтнага.

І паводле ўсіх дэдлайнаў, з адзіным кандыдатам гэтым разам канкрэтна спазніліся.

Дый ён не адзіны. Не ад усёй апазіцыі, а ў лепшым выпадку ад «блока пяці» (магчыма, у перспектыве далучыцца яшчэ нехта) палітычных апазіцыйных структур. Але ўжо зразумела, што ён не будзе адзіным — ад усёй апазіцыі. Бо ёсць «Гавары праўду» і іншыя.

Такі адзіны кандыдат руйнуе ідэю байкоту і «супраць усіх». Цяпер, калі прыхільнікі байкоту будуць тапіць супраць адзінага ад апазіцыі, а не ад улады, а «Свежы вецер» не трапіць нават у шчыліны на прэс-канферэнцыі нашых нібыта дэмакратаў, то зразумела, што апазіцыйная супольнасць падзеліцца яшчэ раз і яшчэ мацней у межах самой сябе паводле бачання кірункаў — куды ісці, з кім і за што.

## Ідэальны кандыдат

Прагназуецца, што гэта будуць самыя сумныя прэзідэнцкія выбары за ўсю гісторыю выбараў у Беларусі. Электарат цяпер палітычна апатычны, што падкрэсліла і парламенцкая кампанія. Але яго ўсё ж — хоць і фрагментарна — хвалююць канкрэтныя пытанні, такія, як страта суверэнітэту, будаўніцтва акумулятарнага завода ў Брэсце, пэўныя новыя законы (хваля супраць дэкрэту аб дармаедах ці наркатычнага артыкула 328). Таму задачай для альтэрнатыўнага кандыдата будзе калі не перамагчы, то, прынамсі, папрацаваць, каб змяніць кірунак мыслення той часткі электарату, які на сёння ёсць чужым — электаратам сістэмы ды абыякавымі стомленымі беларусамі. Распачаць крок за крокам рэвалюцыю мыслення. Бо рэжымы змяняюцца спачатку ў галовах, а толькі потым — на вуліцах і ў Палацах.

Пакуль стартуе праймерыз, давайце прыгледзімся да кандыдатаў. З чым імем вы б апранулі кашульку на сваё дзіця і выйшлі пагуляць па праспекце напрыканцы вясны? Ці ёсць такое імя? Калі мы не бачым вялікіх палітычных грамадскіх справаў за Брахмай-адзіным, давайце паглядзім на твары асобаў, што пакуль хаваюцца за ім, як на нашых сяброў і суседзяў, нашых любімых, каго можам ці не можам палюбіць. Як часта яны бавяць час са сваімі сем'ямі, колькі часу выдаткоўваць на выхаванне дзяцей, на якой мове размаўляюць з роднымі? Якую маюць адукацыю? Хто іх бацькі? Ці чыталі яны Караткевіча і Абдзіраловіча? Ці можна на іх абаперціся, даверыцца? Ці свае яны напраўду? Так, як да найбліжэйшага атачэння, да сваіх дзяцей, яны з вялікай верагоднасцю будуць ставіцца і да свайго народу, да яго будучыні. Хто яны — гэтыя людзі? А за каго хацелася б прагаласаць вам? Мо гэта і ёсць той самы адзіны, які патрэбны і ўсёй Беларусі?

# Дзесяць сакрэтаў

Міхась КУДЗЕЙКА,
кандыдат педагагічных навук



Фота «Новы час»

**У рэйтынгу Міжнароднай праграмы па ацэнцы адукацыйных дасягненняў навучэнцаў (PISA) за 2018 год Эстонія заняла першае месца сярод Еўрапейскіх дзяржаў па якасці ведаў ва ўсіх трох галінах даследавання — чытанне, матэматыка і прыродазнаўчыя навукі.**

У час трыумфу Эстоніі мы, група беларускіх педагогаў (Ірына Стралкова, Вікторыя Гракава, Алена Кахноўская, Міхаіл Кудзейка), праходзілі адукацыйную стажыроўку ў Эстонскай Рэспубліцы, арганізаваную Міжнародным цэнтрам па прафесійным развіцці (Эстонія) і Еўрапейскай праграмай прафесійнай мабільнасці MOST.

Падчас знаёмства з сістэмай адукацыі Эстоніі мяне ўвесь час хвалявала пытанне прычынаў поспеху. Калі я вярнуўся і прааналізаваў убачанае, вылучыў каля дзясятка цікавых момантаў, якія, на мой погляд, з'яўляюцца ключавымі ў дасягненні значнага адукацыйнага поспеху. Я назваў іх «сакрэтамі» — і з радасцю імі дзялюся.

## Сакрэт першы: фінская мадэль адукацыі

У аснове сістэмы адукацыі Эстоніі знаходзіцца адаптаваная да ўмоваў дзяржаўнай рэчаіснасці фінская мадэль. Гэта ўсе ведаюць, пра гэта гавораць і гэтым ганарацца. Адметныя яе рысы: праца, арыентаваная на дзіця, з улікам яго магчымасцяў і здольнасцяў; адсутнасць рэйтынгу на ўсіх этапах адукацыйнага працэсу; давер, свабода дзеянняў устаноў адукацыі і настаўнікаў; камандная праца педагагічных калектываў ды іншае.

У Эстоніі дзейнічае сацыяльная сістэма падтрымкі грамадзян, якая прадугледжвае бясплатнае школьнае харчаванне, бясплатныя падручнікі і сшыткі да іх, ментарскую сістэму падтрымкі дзяцей з асаблівымі патрабаваннямі (у тым ліку адораных), бясплатны праезд для вучняў у гарадскім транспарце.

## Сакрэт другі: арыентацыя на асобу вучня

Эстонія бярэ ўдзел у маніторынгу PISA не дзеля рэйтынгу, а дзеля высвятлення станоўчых і праблемных бакоў сістэмы адукацыі з мэтай удасканалення. Мы сталі сведкамі таго, што ўжо на трэці дзень пасля абвяшчэння, вынікі даследавання PISA былі разгледжаныя ў Міністэрстве адукацыі Эстоніі і вызначаныя кірункі развіцця. Здавалася, што ўсё ж у іх цудоўна і няма прычын хвалявацца, але праблемы былі агучаныя, і нават выпрацавана стратэгія далейшага развіцця. Так, было агучана, што 70% вучняў Эстоніі задаволеныя жыццём і 80% — лічаць сябе шчаслівымі ў школе. Гэта — вельмі малы працэнт. Цяпер перад установамі адукацыі стаіць праблема павышэння ўзроўню шчасця навучэнцаў у працэсе атрымання адукацыі.

Акрамя таго, міністэрства адукацыі вырашыла вывучыць асаблівасці сістэмы адукацыі краін, якія маюць нізкія паказчыкі, каб зразумець прычыны праблем ды пазбегнуць іх, прыняўшы прафілактычныя меры.



Школьныя падручнікі эстонскія вучні атрымліваюць бясплатна

Фота www.nastaunik.info

## Сакрэт трэці: статус дырэктара школы

Дырэктараў школ у Эстоніі выбіраюць, а не прызначаюць. Прэтэндэнты на пасаду павінны прадставіць праект стратэгіі развіцця школы. Муніцыпалітэт стварае камісію, якая разглядае кандыдатуры, іх праекты і прымае рашэнне аб прызначэнні на пасаду.

Дырэктары школ не займаюцца гаспадарчай работай — гэта праца намеснікаў і муніцыпалітэта. Дырэктар з'яўляецца кіраўніком і тварам школы. Дырэктары школ шмат часу прысвячаюць грамадскай працы і прадстаўляюць інтарэсы адукацыі на муніцыпальным і дзяржаўным узроўнях, уваходзяць у склад розных выканаўчых і заканадаўчых органаў.

## Сакрэт чацвёрты: аўтаномнасць і свабода

Міністэрства адукацыі Эстоніі даўно адмовілася ад рэйтынгаў, дало свабоду школам і настаўнікам. Цяпер кожная школа і дзіцячы садочак маюць свой індывідуальны твар, сваю сістэму і, адпаведна, — свае станоўчыя вынікі. Міністэрства дае школам толькі рамачныя праграмы, якія дазваляюць настаўнікам улічваць асаблівасці вучняў, мясцовыя прыярытэты.

## Сакрэт пяты: адсутнасць праверак і правяраючых

Адсутнасць праверак прывяла да скарачэння колькасці папер, што вызваліла настаўніку час на працу з вучнямі. Кантралююць якасць адукацыі вучні і бацькі, якія кожны год запаўняюць апытальнікі. Задаволенасць бацькоў і вучняў умовамі і ўзроўнем адукацыйнага працэсу з'яўляецца паказчыкам паспяховасці школы.

Трэба заўважыць, што праверкі санітарнай службы, пажарных і іншых кантралюючых органаў праводзяцца, але з іншай місіяй — не знайсці, а дапамагчы. Часцей за ўсё, гэта выклікана пэўнай праблемай альбо яе прафілактыкай. Паколькі кожная школа належыць муніцыпалітэту, то менавіта ён адказвае за яе стан, бяспеку і не можа сам сябе пакараць штрафамі і прадпісаннямі, таму ўсе службы зацікаўленыя ў тым, каб ніякіх праблем ва ўстановах адукацыі не існавала, каб кожная школа займалася сваёй асноўнай дзейнасцю — навучаннем.

У краіне існуе атэстацыя школ і гімназій, але на пазіцыі даверу, і ўлічвае вынікі штогадовых маніторынгаў меркаванняў вучняў, бацькоў і настаўнікаў.

## Сакрэт шосты: адсутнасць папер павышае адказнасць

Развіццё камп'ютарных тэхналогій пазбавіла вучняў і настаўнікаў ад папяровай дакументацыі. Адсутнасць бюракратыі не знізіла, а павысіла ўзровень адказнасці педагогаў за якасць адукацыйнага працэсу. Уся справа ў тым, што адукацыйная сістэма грунтуецца на фарміруючай ацэнцы, пра якую напісана ніжэй. Акрамя гэтага, кожны настаўнік як класны кіраўнік абавязаны праводзіць развіццёвыя гутаркі з вучнямі і бацькамі, якія звязаны з аналізам і фіксацыяй атрыманых ведаў. Так, гэта адымае ў настаўніка шмат часу, але працуе непасрэдна на эфектыўнасць навучання, якое якасна спрагназавана і спланавана з улікам магчымасцяў, цікавасцяў і здольнасцяў кожнага вучня.

Што тычыцца настаўніцкай дакументацыі, то ў кожнага настаўніка яе няшмат: каляндарнае планаванне па прадмеце, якое складаецца на трохгадовы этап навучання з улікам патрабаванняў рамачнай праграмы; фактычнае планаванне на навучальны год, якое ўлічвае папярэднія дасягненні і праблемы ў развіцці прадметных і ўніверсальных кампетэнцый; планы-канспекты да ўрокаў паводле жадання самога настаўніка.

Настаўнікі працуюць на даверы, і толькі калі з'яўляюцца праблемы (па выніках апытання вучняў і бацькоў), падключаецца адміністрацыя. Каб пазбегнуць метадычных праблем, у школах ёсць прадметныя секцыі, чальцы якіх узаемна наведваюць урокі калег з пэўнай мэтай, звязанай з дапамогай ці пошукам рашэння педагагічнай праблемы, але толькі не кантролю.

## Сакрэт сёмы: развіццёвыя гутаркі

У Эстоніі за выхаванне дзяцей адказваюць бацькі. Гэта зацверджана законам на дзяржаўным узроўні. Школа займаецца толькі адукацыйнай дзейнасцю, і толькі ў межах школы. Праца настаўніка абмяжоўваецца тэрыторыяй школы, бо за межамі школы праблемамі сямейнага выхавання займаецца моладзевая паліцыя (накшталт нашай ІСН) і сацыяльныя службы, якія супрацоўнічаюць з сацыяльна-псіхалагічнымі службамі школ.

Сувязь школы і бацькоў ажыццяўляецца праз развіццёвыя гутаркі. У дзіцячым садку і пачатковай школе класны кіраўнік адзін раз на год праводзіць такія гутаркі індывідуальна з кожным вучнем у прысутнасці

# эстонскага поспеху

аднаго з бацькоў. У сярэдніх і старэйшых класах на развіццёвыя гутаркі запрашаюцца толькі вучні. На гутарках ідзе размова з вучнем і прадстаўніком сям'і аб яго поспехах, праблемах і перспектывах. Напрыканцы гутаркі кожны вучань і яго прадстаўнік падпісваюцца пад вынікамі размовы, якія фіксуюцца на паперы. Гэта з'яўляецца своеасаблівым дапаможнікам да дзеяння вучня і настаўніка і прадметам размовы з вучнем і яго бацькамі на наступны год.

Што гэта дае? Як кажуць настаўнікі і прадстаўнікі адміністрацыі школ, такі падыход дазваляе аб'яднаць вучняў, бацькоў і настаўнікаў у адукацыйных мэтах, зрабіць навучальны працэс адкрытым і празрыстым, далучыць бацькоў і вучняў да аналізу працэсу навучання дзіцяці, яго планаў і перспектыў, высветліць праблемы, аказаць своечасовую дапамогу. Такі падыход, па словах настаўнікаў і адміністрацыі школ, дазволіў знізіць колькасць скаргаў і ўзровень незадаволенасці вучняў і бацькоў школай.

### Сакрэт восьмы: фарміруючая ацэнка

Ацэньванне вучня па Дзяржаўнай праграме навучання складаецца са славеснай ацэнкі (пісьмовая, вусная), фарміруючай ацэнкі (вынікі вучня ў параўнанні з яго папярэднімі вынікамі, даецца два разы на год), лічбавай адзнакі (выстаўляецца на аснове крытэрыяў ацэньвання, гэта вынікі вучня ў параўнанні з патрабаваннямі праграмы).

Фарміруючая ацэнка з'яўляецца асновай сістэмы адукацыі, яна прапісана не толькі ў нарматыўных дакументах, прысутнічае ў адукацыйным працэсе кожнай школы. Фарміруючая ацэнка арыентаваная на асэнсаванасць навучання праз стварэнне ўнутранай матывацыі (патрэбы), на выхаванне адказнасці і самастойнасці праз давер і свабоду выбару. Аснова фарміруючай ацэнкі — інфармацыя аб працэсе і выніках навучання кожнага вучня, што робіць навучанне (працэс і вынік) бачным.

Першая асаблівасць фарміруючай ацэнкі — магчымасць вучня адмовіцца ад адзнакі з мэтай павышэння ўзроўню сваіх ведаў. Але гэта рашэнне прымае сам вучань, без удзелу бацькоў і настаўніка. Другая асаблівасць — крытэрыяльны падыход, які дазваляе зрабіць навучальны працэс зразумелым, даступным і дыягнастычным. Дзякуючы фарміруючай ацэнцы вучні разумеюць, чаго ходзяць у школу і навошта ім вывучаць кожны з навучальных прадметаў, ведаюць свае магчымасці і адэкватна ацэньваюць свае здольнасці, плануюць траекторыю свайго развіцця.

### Сакрэт дзявяты: кампетэнтнасць — адна з асноўных ідэй навучання

Для сістэмы адукацыі Эстоніі вельмі важна, каб вучань напрыканцы навучання набыў не толькі прадметныя, але і жыццёва значныя кампетэнцыі. Што ж для гэтага робіцца?

Кампетэнтнасны падыход закладзены ў нарматыўную дакументацыю. Патрабаванні да ведаў, уменняў і кампетэнцый прапісаныя не пасля кожнага года навучання, а напрыканцы трохгадовага кроку: I ступень (1–3 клас), II ступень (4–6 клас), III ступень (7–9 клас), гімназія (10–12 клас). Паводле меркаванняў настаўнікаў, гэта дае пэўную свабоду дзеянняў педагогу пры фармаванні прадметных і жыццёва важных кампетэнцый: культурнай і каштоўнаснай, сацыяльнай, самавызначэння, пазнавальнай, камунікатыўнай, матэматычнай (прыродазнаўчай, тэхнічнай), прадпрымальніцкай, дыгітальнай (кап'ютарныя тэхналогіі).

Кіраўніцтва і настаўнікі школ вельмі добра ведаюць, што развіццё кампетэнцый магчыма толькі праз дзейнасць і толькі ў спецыяльна арганізаваным педагагічным асяроддзі, дзе кампетэнцыі фарміруюцца не паасобку, а комплексна. І менавіта таму акцэнт зроблены на правядзенне інтэграваных урокаў, дзе выкарыстоўваюцца веды розных навучальных дысцыплін, што дазваляе вучням атрымаць агульнае ўяўленне аб аб'ектах, працэсах, з'явах.

Так, на ўроку матэматыкі ў 1-м класе мы назіралі за тым, як вучні асвойваючы складанне і адыманне ў межах 10, выкарыстоўвалі веды па прыродазнаўстве, пісьме, выяўленчым мастацтве, праграмаванні. Кожныя тры хвіліны вучні мянялі віды дзейнасці, працавалі ў парах, групах, індывідуальна. Заданні прадугледжвалі не толькі валоданне пэўнымі правіламі і алгарытмамі дзейнасці, але і прымяненне іх у звычайным жыцці.

Таксама інтэграцыя можа быць рэалізаваная на аснове міжпрадметных сувязяў пра што дамаўляюцца настаўнікі. Кожны з настаўнікаў павінен правесці 1–2 урокі ў год па тэмах, якія можна разглядаць як частку іншых вучэбных дысцыплін. Так, настаўнік літаратуры можа прапанаваць настаўніку гісторыі, выяўленчага мастацтва, геаграфіі ўключыць пэўную тэму ў план выкладання свайго прадмета. Узгадніўшы час, змест і дзеянні настаўнікі і вучні вывучаюць яе на розных уроках, ствараючы агульнае ўяўленне аб асобе, падзеі, гістарычным перыядзе і г.д. Не менш цікава праходзяць урокі па-за школай з выкарыстаннем музейнай і бібліятэчнай педагогікі.

Ідэю інтэграцыі ведаў рэалізуюць падручнікі, якія падобныя да пазнавальных энцыклапедый. Настаўнікі маюць права выбару падручнікаў са звычайным ці інтэграваным зместам.

Сістэма адукацыі прадугледжвае спецыфічныя выпрабаванні для ацэнкі ўзроўню сфарміраванасці ўніверсальных кампетэнцый вучняў. Вучні выпускных класаў павінны не толькі здаць вусныя і пісьмовыя экзамены, але пасля 9 класа напісаць і прэзентаваць творчую працу, а пасля 12 класа — абараніць праект. Звесткі аб тэмах і адзнакі па праектах заносяцца ў атэстат.

### Сакрэт дзясяты: нацыянальная свядомасць і адказнасць

Больш за ўсё ўразіў дзяржаўны падыход да захавання нацыянальнай мовы і культуры Эстоніі, дзе жыве 25% рускамоўнага насельніцтва. Эстонія — адкрытая краіна, якая ветліва прымае людзей розных нацыянальнасцяў, што вырашылі стаць яе грамадзянамі альбо атрымаць від на жыхарства. Выпрацаваўшы своеасаблівую сістэму развіцця эстонскай мовы і нацыянальнай культуры, яна не падзяляе сваіх жыхароў на катэгорыі, звязаныя з валоданнем мовай, бо яе ведаюць амаль усе, нягледзячы на тое, якой мовай яны карыстаюцца дома.

Сакрэт паспяховасці хаваецца ў сістэме адукацыі. Пачынаючы з дзіцячых садкоў (ёсць эстонскія і рускамоўныя), дзеці паглыбляюцца ў нацыянальную культуру (праз традыцыі і святы) і эстонскую мову (мэтанакіраваныя заняткі). Настаўнікі (у Эстоніі выхавацелі маюць статус настаўніка і атрымліваюць такую ж зарплату) дзіцячых садкоў працуюць у групах па два чалавекі. Адзін — у першую палову дня і праводзіць заняткі на рускай мове, а другі працуе ў другую палову дня і праводзіць тыя ж заняткі (са спрошчаным зместам) толькі на эстонскай мове. Кожны настаўнік размаўляе толькі на сваёй мове і не выкарыстоўвае іншую. Так у вучняў адзін настаўнік асацыюецца з рускай мовай, а другі — з эстонскай.

У школах з першага класа ідзе паступовае паглыбленне ў эстонскую мову. Кожны год навучання павялічвае колькасць эстонскай мовы (прадметаў на эстонскай мове). Так, у пятым класе 50% вучэбных прадметаў выкладаецца на эстонскай мове. У дзявятым класе — амаль усе прадметы. А вось паступленне ў гімназію магчыма толькі з веданнем эстонскай мовы, бо навучанне там адбываецца толькі па-эстонску.

У школах для вучняў, якія прыехалі з іншых краін, распрацоўваецца індывідуальны план навучання, дзе кожнаму даецца бясплатная магчымасць павялічыць колькасць гадзін на вывучэнне эстонскай мовы. А вось для таго, каб уладкавацца і працаваць настаўнікам у Эстоніі, неабходна ведаць эстонскую мову на ўзроўні В-1. Для вывучэння мовы даецца 1 год і бясплатныя магчымасці карыстання моўнымі курсамі.

Вось і ўсе эстонскія сакрэты...

**P.S.** Па дарозе дамоў мы спрабавалі разгадаць беларускі сакрэт: «Што перашкаджае нам, беларусам, зрабіць нашу сістэму адукацыі цікавай і карыснай ДЛЯ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ — будучага НАШАЙ КРАІНЫ?»...




**У школах з першага класа ідзе паступовае паглыбленне ў эстонскую мову. Кожны год навучання павялічвае колькасць эстонскай мовы (прадметаў на эстонскай мове). Так, у пятым класе 50% вучэбных прадметаў выкладаецца на эстонскай мове. У дзявятым класе — амаль усе прадметы**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Гітлер знішчаў клімат?

Стала добрай традыцыяй наракаць на нізкі ўзровень ведаў нашай моладзі. Між тым, падобна, заходнія тынейджары пакутуюць на тыя ж праблемы. Напрыклад, 18-гадовы Том Радке (Tom Radtke) з Гамбургу агаломшыў Twitter сваімі ведамі гісторыі ў гадавіну вызвалення Асвенцыму. На думку маладзёна, гітлераўцы нясуць галоўную адказнасць за цяперашнюю кліматычную катастрофу, паколькі іх танкі падчас Другой сусветнай вайны выкідалі ў паветра шмат газаў $CO_2$. Гэтая акалічнасць дазволіла Тому Радке назваць немцаў, якія цяпер не вераць у глабальнае пацяпленне, «паслядоўнікамі нацыстаў». Такая арыгінальная трактоўка кліматычных праблемаў выклікала не толькі смех, але і незадаволенасць кіраўніцтва гамбургскай секцыі партыі «Левыя» (у яе шэрагах, аказваецца, знаходзіцца герой сюжэту). Нягледзячы на тое, што Радке займае ў партыйным спісе на выбарах у школьны парламент Гамбурга высокае і перспектыўнае 20-е месца, хлопца папрасілі пакласці партбілет на стол.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Каронавірус — помста кыргызаў?

Чым больш трывожнай інфармацыі пра пашырэнне эпідэміі каронавіруса, тым больш канспіратыўных версій наконт яе вытокаў. Свой унёсак у фабрыкацыю чутак зрабілі і ў Кыргызстане. Экс-кандыдат у прэзідэнты Арстанбек Абдылдаеў, які раней назваў сябе богам, паведаміў, што менавіта ён наслаў на Кітай той самы вірус. На такі крок, паводле яго слоў, Абдылдаева штурхнула тое, што КНР не даравала Кыргызстану 4 мільярды долараў пазыкі. «Пакуль Кітай не спазнае веліч кыргызскага народа, ён не пераможа каронавірус», — заявіў Абдылдаеў. Кітай ніяк не рэагуе на гэтыя пагрозы. Затое версія Арстанбека Абдылдаева выклікала вялікую цікавасць у Кыргызстане. Некаторыя мясцовыя «патрыёты» нават прапануюць біёлагам перайменаваць «каронавірус» у «кыргызавірус». Нягледзячы на тое, што ўся гісторыя падобная да камедыі, многія палітолагі вельмі ўсхваляваныя каскадам фэйкаў пра штучнае паходжанне вірусу. У выпадку пагаршэння сітуацыі, падобныя інсінуацыі, мауляў, могуць справакаваць паніку і масавы гвалт.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### ІРАН. Самы прыбытковы бізнес на Усходзе

Сітуацыя ў іранскай эканоміцы — не самая лепшая з-за шматлікіх знешніх санкцый. Але гэта не тычыцца такой незвычайнай галіны, як вытворчасць сцягоў Ізраілю, ЗША і Вялікабрытаніі. Гэтыя сцягі патрэбныя ўдзельнікам антызаходніх маніфестацый, якія падчас акцый спальваюць іх на радасць натоўпу. Брытанскае выданне The Guardian зрабіла рэпартаж з аднаго з такіх заводзікаў пад Тэгеранам, які штомесяц выраблue больш за 2000 зорна-паласатых сцягоў. І попыт на прадукцыю толькі расце — асабліва пасля таго, як амерыканцы ў студзені забілі іранскага генерала Сулеймані, што выклікала ў краіне масавыя антыамерыканскія дэманстрацыі. Цікава, што вытворцы сцягоў не з'яўляюцца прыхільнікамі клерыкальнага рэжыму, які пануе ў Іране. Пры гэтым яны мяркуюць, што іранцы маюць права пратэставаць супраць урадаў заходніх краін, спальваючы іх сцягі.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Амерыканцы хацелі цвярозасці




ЗША адзначаюць сотую гадавіну ўвядзення «Сухога закона», які дзейнічаў у краіне з 1920 па 1933 гады. Адначасова сярод гісторыкаў абвастрыліся дэбаты наконт таго, ці сапраўды гэтая мера была непапулярнай у народзе. Доўгі час лічылася, што простыя амерыканцы не падтрымалі «Сухі закон», ды пратэставалі шляхам ужывання забароненых напояў. Сёння кансерватыўныя гісторыкі спрабуюць перагледзець старую міфалагему. На іх думку, усе факты сведчаць пра ўсенародную падтрымку цвярозасці. Да 1920 года алкаголь быў ужо забаронены ў большасці штатаў. Практычна ўсе публічныя лідары ЗША ў пачатку 1920-х гадоў падтрымалі крыжовы паход супраць «зялёнага змія». Аргументацыя вельмі моцная, аднак не ідэальная. Як паказваюць факты, амерыканцы сапраўды спажывалі шмат забароненага алкаголю ў 1920-я гады. Гэтую з'яву кансерватыўныя гісторыкі тлумачаць змовай адной з фракцый амерыканскага бізнесу, якія вырашылі зарабіць на дэфіцытным напоі.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.kipmu.ru

# «Прымусіць пачуць голас жывёлаў!»

Алег НОВІКАЎ

**Вынікі сакавіцкіх муніцыпальных выбараў у Францыі могуць задаць у Еўропе моду на новы палітычны напрамак — анімалізм, або рух абароны жывёлаў.**

Бегае па вёсцы Аджамка, што ў Кіраваградскай вобласці Украіны, старэнькі, амаль сляпы беспародны сабака Шарык. Бегае Шарык — і не ведае, што ў гэты час ён з'яўляецца галоўным тэрмінатарам рэйтынгу прэзідэнцкай партыі «Слуга народа». Усё таму, што падчас аднаго з нядаўніх палітычных шоу дэпутат ад «Слугі народа» параіў гаспадыні Шарыка прадаць свайго любімага сабаку, каб аплаціць камунальныя рахункі.

Прапанова парламентарыя выклікала бурную рэакцыю грамадства. Прычым, каментатары не абмяжоўваюцца прыколамі накшталт ідэі выстаўляць у будучыні рахункі за камуналку ў сабаках, катах і хамяках. На адрас дэпутата гучаць ледзь не пагрозы і праклёны.

Гісторыя з украінскім Шарыкам у тым ліку наглядна паказвае, якую важную ролю ў жыцці сучаснага чалавека адыгрываюць жывёлы (перш за ўсё хатнія). Гэтая прыхільнасць мае шмат праяваў, але апошнім часам яна пачала адлюстроўвацца і ў палітыцы — для абароны катоў, сабак і іншых прадстаўнікоў фаўны іх аматары пачалі фарміраваць свае партыі.

Анімалізм — так звычайна называюць новую плынь — параўнальна малады ў палітыцы кірунак. Першыя партыі анімалістаў з'явіліся ў Еўропе ў пачатку 1990-х гадоў (Германія). Аднак абсалютная большасць цяперашніх партый анімалістаў у краінах ЕС паўстала прыкладна ў 2003–2014 гадах. У 2014-м быў аформлены агульнаеўрапейскі Інтэрнацыянал анімалістаў — Animal Politics EU.

Чаго хочуць анімалісты? У прынцыпе, іх патрабаванні характэрныя для праграмаў звычайных экалагічных партый. Аднак для эколагаў абарона жывёл — хутчэй, толькі адзін з блокаў іх праграмы.

Што да анімалістаў, то яны цалкам канцэнтруюцца на вырашэнні праблемаў братоў меншых, патрабуючы ў тым ліку павысіць прававы статус жывёлаў, забараніць рабіць на іх медыцынскія тэсты, і нават адмовіцца ад культурных традыцый, звязаных з жорсткім абыходжаннем з жывёламі (напрыклад, карыда або вытворчасць фуа-гра). Ёсць таксама пункт пра спыненне варварскага абыходжання з бяздомнымі сабакамі і катамі. Да радыкальных палажэнняў праграмы можна аднесці ідэю поўнай забароны ў Еўрасаюзе любых відаў палявання, а таксама ўвозу дзікіх жывёлаў і футра.

Доўгі час анімалісты ўспрымаліся палітолагамі як экзотыка. Стаўленне да руху пачало асцярожна змяняцца пасля поспеху нямецкай Партыі абароны жывёлаў на выбарах у Еўрапарламент у 2014 годзе. Яе прадстаўнік атрымаў мандат еўрадэпутата. Услед за Германіяй анімалісты прайшлі ў Еўрапарламент ад Нідэрландаў. Прадстаўленыя яны цяпер і ў нацыянальных парламентах. На сёння больш за ўсё на нацыянальных выбарах збірала партугальская партыя «Людзі — Жывёлы — Прырода» (4,2 працэнта). Велізарнай сенсацыяй стаў поспех французскай Партыі анімалістаў на выбарах Еўрапарламент у мінулым годзе, калі за яе галасавалі каля 490 тысяч выбаршчыкаў.

**Шэсць з дзесяці французаў маюць намер галасаваць за партыю, якая ангажаваная ў абарону жывёлаў. Да абаронцаў жывёлаў адносіць сябе 78 працэнтаў апытанай моладзі**

Магчыма, цяпер мы знаходзімся напярэдадні фенаменальнага прарыву анімалістаў у вялікую палітыку. Гэта можа адбыцца на муніцыпальных выбарах у Францыі ў сакавіку. Яшчэ ўчора лічылася, што галоўны сюжэт выбараў будзе заключацца ў супрацьстаянні партыі прэзідэнта Эмануэля Макрона і цэлага пулу партый апазіцыі.

Аднак прыкладна за два месяцы да галасавання сацыёлагі падкінулі новую інтрыгу. Згодна з вынікамі апытанняў агенцтва l'Ifop, якія былі зробленыя па замове фонду Fondation 30 Millions d'Amis, шэсць з дзесяці французаў маюць намер галасаваць за партыю, якая ангажаваная ў абарону жывёлаў. І гэта не ўсё. Да абаронцаў жывёлаў адносіць сябе 78 працэнтаў апытанай моладзі.

Заказчыкі апытання так адрэагавалі на яго вынікі: «Ніколі яшчэ стан жывёлаў не займаў такога важнага месца ў публічных дэбатах. Абарона жывёлаў стала рэальнай сацыяльнай праблемай, што выклікае занепакоенасць большасці французаў, якія, у сваю чаргу, заклікаюць да прыняцця захадаў на гэты конт».

Згаданая арыфметыка рэзка ўзняла цікавасць да Партыі анімалістаў, кандыдаты якой балатуюцца ў 12 муніцыпалітэтах. У шэрагу гарадоў, у тым ліку ў Парыжы, анімалісты блакуюцца з іншымі, як правіла, левымі партыямі. Часцяком іх абяцанні гучаць незвычайна. Напрыклад, у Тулузе кандыдат анімалістаў выступае за тое, каб прыраўняць у правах мігрантаў-нелегалаў і бяздомных жывёлаў, а таксама абяцае «прымусіць палітыкаў пачуць голас жывёлаў».

Тым не менш, здаецца, цяпер анімалістаў сапраўды пачынаюць разглядаць як сур'ёзных канкурэнтаў. Асабліва хвалюе іх працёўнікаў тое, што на сваіх перадвыбарчых афішах абаронцы жывёлаў выяўляюць мілых коцікаў і сабак. У выбаркам ужо напісаная адпаведная скарга. А пра тое, ці сапраўды чмысці абгрунтаваныя страхі традыцыйных палітыкаў перад выявамі хатніх гадаванцаў, мы даведаемся ў сакавіку.

# «М» направа, «Ж» налева

Алег НОВІКАЎ

**Жарт? Правакацыя? А можа, новы этап гендарнай рэвалюцыі? Што стаіць за заклікам канадскай феміністкі забараніць «адносіны паміж мужчынамі і жанчынамі»?**




Фота www.1prof.by

Менавіта так — забараніць. Чаму? Таму што «гетэрасексуальныя адносіны па сваёй прыродзе вельмі жорсткія», — піша аўтарка ідэі, правадырка феміністак Квебеку 51-гадовая Габрыэль Бушар. У якасці аргумента яна прыводзіць дадзеныя статыстыкі, паводле якіх падчас гетэрасексуальных адносін жанчын забіваюць значна больш, чым мужчын. Гэтую з'яву феміністка прапануе разглядаць як варыяцыю генацыду, які, на яе думку, павінен называцца «феміцыд».

Напэўна, яшчэ ўчора такі падыход выклікаў бы выключна іранічныя водгукі. Тым больш, што мадам Бушар на самай справе нарадзілася мужчынам. Да таго, як адчуць сябе фемінай і зрабіць адпаведную аперацыю, ён нават паспеў паслужыць на флоце.

Але паколькі цяпер на дварэ феміністычная рэвалюцыя, а Габрыэль займае вельмі значную грамадскую пасаду, на яе допіс ад 26 студзеня звярнулі ўвагу вядучыя СМІ і прадстаўнікі канадскага палітыкуму.

Гледзячы на першыя рэфлексіі, нават вельмі ліберальнае канадскае грамадства аказалася не гатовае да падобнай рэформы. У колах феміністак паўстала тэорыя, што Бушар — правакатарка, якая наўмысна вырашыла скампраметаваць жаночы рух. Узгадалі, як у мінулым годзе тая выклікала падобны шок у грамадстве, прапанаваўшы абмеркаваць абавязковую мужчынскую стэрылізацыю ў 18 гадоў. Лідар вядучай мясцовай левай партыі Québec solidaire палічыў, што Габрыэль проста жартуе.

Што ўжо казаць пра кансерватыўныя медыя, якія называюць пасаж мадам Бушар «шкодай для сацыяльнага клімату», «абстрактнай левізной», наступствам «нестабільнага надвор'я» і гэтак далей. А нейкі сябар ураду Квебека, які складаецца з лібералаў, нават задумаўся над тым, каб скараціць феміністкам памер датацый (сёння яны складаюць каля 120 тысяч амерыканскіх долараў штогод) за «некампетэнтнасць» іх атаманшы. З нетраў самой арганізацыі феміністак адразу пачалі даносіцца заклікі за перавыбары кіраўніцтва.

Натуральна, гучней за ўсіх абураліся мужчыны — аматары традыцыйных каштоўнасцяў. У сацыяльных сетках яны пагаджаліся, што ахвярамі фізічнага гвалту сярод прадстаўнікоў гетэрасексуальных пар звычайна з'яўляюцца жанчыны. Аднак пры гэтым заклікалі не забывацца пра маральны і псіхалагічны гвалт, ахвярамі якога, маўляў, часцей становяцца прадстаўнікі моцнай часткі чалавецтва.

Улюбым выпадку, пад ціскам абструкцыі Габрыэль напісала, што яе прапанова пра «феміцыд» была «нязграбнай». Бушар кажа, што яе першапачатковы допіс быў эмацыйным адказам на навіну пра забойства 22-гадовай дзяўчыны. Яе забіў хлопец, якога ўмоўна вызвалілі з турмы, куды ён трапіў у 2006 годзе таксама за забойства партнёркі.

Адначасова высветлілася, што Габрыэль не прадстаўляе ўсіх феміністак канадскай правінцыі. «Пазіцыі федэрацыі пад кіраўніцтвам Бушар адлюстроўваюць рознагалоссі ў жаночым руху правінцыі. Бушар накіравала групу ў больш радыкальным напрамку і адштурхнула некаторых феміністак, якія публічна абвясцілі, што арганізацыя больш не выступае за іх», — піша мясцовая газета The Star.

Падавалася, што на гэтым інцыдэнт вычарпаны. Ніякіх праектаў сегрэгацыі мужчын і жанчын на самай справе не існуе. Але кансерватыўная прэса пакуль што не думае спыняцца ды выкарыстоўвае допіс Бушар як добрую нагоду для атак на феміністак. Пішуць, што Габрыэль Бушар — гэта не звычайны трансгендар, а нейкая пілотная мадэль таго, як феміністкі бачаць мужчын у будучыні. Такім чынам, усім ім давядзецца прайсці праз аперацыю па змене полу і стаць жанчынамі.

У сваю чаргу, жаночыя арганізацыі бачаць у падобных публікацыях медыякампанію за тое, каб скараціць феміністычным праектам падтрымку з дзяржаўных фондаў. Як вынік, яны намагаюцца пратэставаць, што ў тым ліку дапамагае Габрыэль Бушар пакуль заставацца на сваёй пасадзе.

Як бачым, усё пакрысе сыходзіць у вельмі празаічнае пытанне, як трэба размяркоўваць бюджэт. Аднак пра Габрыэль Бушар мы будзем чуць яшчэ вельмі шмат. Расійскія рэтраграды ўжо носяцца з Бушар як з доказам дэградацыі Захаду. «Габрыэль Бушар патрабуе забараніць адносіны паміж мужчынамі і жанчынамі. А быў бы ў іх Дамастрой — нармальна сядзела б жанчына дома, дзецьмі б займалася, гаспадаркай, і муж, напэўна, быў бы. А так шалее баба», — піша газета «Завтра».

Нарэшце, нельга не агучыць тэзіс з артыкула канадскай La Presse. Выданне нагадвае пра тэорыю навукоўцаў, што знікненне Y-храмасомы — апорнага гену, які вызначае ў эмбрыёна дзіцяці мужчынскі пол, — пытанне часу. Так што падабаецца нам эксцэнтрычная мадам Бушар або не, у будучыні чалавечая цывілізацыя сапраўды можа выглядаць як у славутым польскім фільме «Новыя амазонкі».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Педра Санчас



Лідар іспанскіх сацыялістаў, прэм'ер цяперашняга левага ўрада Іспаніі выканаў перадвыбарнае абяцанне — пагадзіўся на перамовы з каталонскім кіраўніцтвам. Першая сустрэча 6 лютага паклала пачатак серыі перамоваў паміж цэнтральным і аўтаномным урадам, накіраваных на вырашэнне каталонскага крызісу.

Зрэшты, іншага выбару ў Санчаса не было, паколькі лёс яго ўрада залежыць ад галасоў фракцыі каталонскай партыі «Левыя рэспубліканцы». У абмен на падтрымку Санчас абяцаў ім пачаць перамовы з урадам Каталоніі, вынікі якіх будуць вынесеныя на рэферэндум усіх жыхароў аўтаноміі. Безумоўна, пачатак перамоваў узмоцніць аўтарытэт ураду. Але на іх пазітыўны вынік разлічваць цяжка. Не толькі таму, што супраць Санчаса вядзецца агрэсіўная прапагандысцкая кампанія з боку іспанскіх правых партый, якія абвінавачваюць прэм'ера ў саступках сепаратыстам, што можа запусціць працэс развалу ўсёй краіны. Каталонскі лагер таксама расколаты адносна перамоваў з цэнтрам. Да кансультацый з Мадрыдам асцярожна ставіцца кіруючая партыя Junts per Catalunya, якая выступае за новы статус рэгіёну.

Так што, хутчэй за ўсё, перамовы зацягнуцца надоўга. З іншага боку, ствараецца перамоўная пляцоўка, што пры наяўнасці адпаведнай грамадскай атмасферы можа прапанаваць кампраміс, які задаволіць усіх.

### Мэры Лу Макдональд



Лідарка ірландскай партыі левых нацыяналістаў Sinn Féin мае шанцы цалкам перафарматаваць мясцовы палітычны пейзаж. На працягу дзесяцігоддзяў штурвал улады ў Ірландыі аспрэчвалі правацэнтрысцкая Fianna Fáil і кансерватыўна-ліберальная Fine Gael. Аднак на гэты ўік-энд эра двухпартыйнасці можа скончыцца. Апытанне, замоўленае самым папулярным у краіне выданнем Irish Times і апублікаванае ў панядзелак, паказала — Fine Gael і Fianna Fáil саступаюць партыі Макдональд. Яна да таго ж з'яўляецца самым папулярным палітыкам у краіне.

Яшчэ ўчора цяжка было ўявіць, што партыя, гістарычна звязаная з тэрарыстамі з Ірландскай рэспубліканскай арміі (ІРА), можа быць лідарам электаральных сімпатый. Але ўсё ж для фарміравання аднапартыйнага ўрада мандатаў нацыяналістаў Sinn Féin відавочна не хопіць. Што тычыцца варыянту кааліцыі, то пакуль як Fine Gael, так і Fianna Fáil супраць блоку з левымі нацыяналістамі.

Іх палохае не толькі антыкапіталістычная рыторыка Sinn Féin. Мары Лу Макдональд і яе аднапартыйцы таксама патрабуюць унесці ў кааліцыйнае пагадненне пункт аб правядзенні на працягу наступных пяці гадоў рэферэндуму аб уваходжанні ў склад Ірландыі паўночных правінцый, якія з 1921 года належаць Вялікабрытаніі. Зрэшты, рана ці позна дамаўляцца з Sinn Féin неяк давядзецца.

### Захар Прылепін



Расійскі літаратар, вядучы на тэлебачанні, у мінулым удзельнік канфліктаў у Чачні і на Данбасе, на думку прэсы, пачаў на практыцы ажыццяўляць крамлёўскі план перамогі «Адзінай Расіі» на думскіх выбарах 2021-га. План заключаецца ў стварэнні шматлікіх партый-спойлераў, якія будуць забіраць галасы ў апазіцыі. Першай такой партыяй, нібыта, стаў створаны на пачатку лютага партыйны праект «За праўду».

Па словах лідара новай партыі Захара Прылепіна, яе місія — у дапамозе расіянам праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю, вярнуць палітыку людзям, знішчыць у Расіі ўвесь постмадэрнізм. Каментатары, у сваю чаргу, пішуць, што сапраўдная задача структуры Прылепіна — забраць на выбарах галасы ў камуністаў, паменшыўшы тым самым іх прадстаўніцтва ў Думе наступнага склікання.

Зрэшты, старт у Прылепіна атрымаўся неадназначным. Вядомы музыка Сяргей Шнураў параўнаў удзельнікаў партыйнага з'езду з героямі «Мёртвых душ». Не дапамагла і прысутнасць на з'ездзе набору медыйных фігур: акцёры Стывен Сігал, Іван Ахлабысцін, музыкі Вадзім Самойлаў, Юлія Чычэрына і Аляксандр Ф. Скляр. У выніку такое сузор'е выклікала ў аўдыторыі пытанне: а дзе ж Дэпарадзье?

Застаецца пачакаць, як канфуз Прылепіна адаб'ецца на парламенцкай кампаніі і рэйтынгах партый-спойлераў, стварэнне якіх, як чакаецца, працягнецца бліжэйшым часам.

7 лютага 2020 | № 5 (664) Новы Час

# Загадкі царскага двара

## Расійская імператрыца была беларускай?

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У бурлівым XVIII стагоддзі пакручасты лёс адных выносіў да вяршыняў улады, іншых — пазбаўляў усяго, у тым ліку галавы.**

### Паміж варагуючымі імперыямі

З пачаткам Новага часу ўся Еўропа заварушылася. Развіваўся гандаль і рамёствы, удасканальвалася тэхніка, раслі гарады і ўзнікалі новыя ідэі. І тое, што яшчэ ўчора падавалася немагчымым, станавілася рэальнасцю. На манархавых тронах сталі з'яўляцца новыя людзі — такія ж энергічныя, жорсткія і непрадказальныя, як і іх час. У Швецыі гэта быў Карл XII, у Прусіі — Фрыдрых II, у Расіі — Пётр I.

Вялікае Княства Літоўскае, на жаль, перажывала тады не лепшы перыяд сваёй гісторыі. З сярэдзіны XVII стагоддзя буяны-суседзі пачалі хадзіць праз тэрыторыю ВКЛ як праз прахадны двор. У ВКЛ папераменна ўрываліся суровыя шведы, хвацкія ўкраінскія казакі, крымскія татары і маскоўская армія. Увесь гэты час таксама не спыняліся прыватныя войны, звады і наезды паміж варагуючымі кланамі беларуска-літоўскіх магнатаў і шляхты. У выніку нямала шляхціцаў і простага люду вымушаныя былі бегчы на сумежныя тэрыторыі: ад Маскоўскага царства да германскіх дзяржаў у Прыбалтыцы.

Тым часам у Расіі да ўлады прыйшоў Пётр I. Новы цар вырашыў расправіць крылы Візантыйска-маскоўскага арла і на беразе Балтыйскага мора. У выніку паміж дзвюма наймагутнымі дзяржавамі рэгіёну, Шведскім Каралеўствам і Маскоўскай дзяржавай, разгарнулася жорсткая вайна.

### Жывы хабар

У жніўні 1702 года рускі атрад пад камандаваннем генерал-фельдмаршала Шарамецева падышоў да занятага шведамі горада Марыенбургу (цяпер гэта польскі горад Мальбарк). Шведскі гарнізон вырашыў капітуляваць. Паводле легенды, у складзе дэлегацыі, што выслалі да рускага фельдмаршала, знаходзіўся мясцовы пратэстанцкі пастар Глюк. Перамовы павінны былі быць складаныя. Паводле звычаяў таго часу, горад, які здаўся на літасць пераможцы, калі і не падвяргаўся разгрому і рабаванню, то ўжо кантрыбуцыю заплаціць быў абавязаны. Але шматдасведны пастар гаварыў па-руску і захапіў з сабой дзве рэчы — Біблію на царкоўнаславянскай мове і служанку Марту.

Наколькі Святое пісанне падзейнічала на Барыса Шарамецева, невядома. Але Марта яму відавочна спадабалася. Ды так,



Кацярына I. Партрэт Ж-М. Нац'е

што ён пакінуў яе ў сябе. Апакрыфічныя гісторыі сцвярджаюць, што ў якасці нявольніцы. Але, хутчэй за ўсё, у выглядзе своеасаблівага хабару або кантрыбуцыі за Марыенбург. Ад Шарамецева прыгожая Марта трапіла да графа Аляксандра Меншыкава, бліжэйшага царскага фаварыта. Ужо ў «Аляксашкі» новую служанку ўбачыў Пётр. І пасля вячэры загадаў дзяўчыне прыйсці да яго ў адпачывальню. Праз кароткі час цар забраў Марту да сябе.

А ў траўні 1724 года пастырская служанка Марта была каранаваная гасударыняй Расійскай імперыі Кацярынай I. Якога ж роду-племені была першая расійская імператрыца?

Радавод другой жонкі Пятра Вялікага цікавіў многіх яшчэ пры жыцці. Уключаючы і самога яе парфіраноснага мужа. Таму даведкі пра яе мінулае наводзілі на вышэйшым дзяржаўным узроўні. Але, як пісаў гісторык Андрэеў у 1871 годзе: «І аднак, нашчадства блукае вобмацкам, шукаючы пэўныя дадзеныя аб паходжанні Марты».

Як магло падацца па першапачатковым «месцы працаўладкавання», яна павінна быць немкай. У будучыні, часцей за ўсё, менавіта прадстаўніцы германскіх дынастый царавалі ў Расіі. Гісторык Матлей пісаў пра тое, што Марта была народжаная блізу Дзерпту (цяпер — Тарту) прыгоннай сялянкай ад Лівонскага памешчыка Розэна. Такім чынам, мае эстонска-нямецкае паходжанне. Па іншай легендзе, будучая руская царыца нарадзілася пад Кегумсам у сям'і латышскіх ці літоўскіх сялянаў.

Але, згодна з найбольш распаўсюджанай версіяй, Марта-Кацярына была беларускага паходжання.

### Служанка з літоўскай мяжы

Па адным з паданняў, Марта была дачкой селяніна, які належаў шляхціцу ВКЛ Лаўрніцкаму. Але практычна афіцыйна прызнанай была наступная гісторыя: бацькам будучай імператрыцы быў Самойла Скаўронскі (Скворощенко, Сковроцкий), уцякач разам з яе маці з ВКЛ у Лівонію. Але бацькі памерлі падчас чумы, а Марту забраў пастар. Аднак і ён разам з усёй сям'ёй

**Скаўронская са сваімі ВКЛаўскімі каранямі была нашмат бліжэй і самому цару, і двару. Заўважым, што літвінскае «заходніцтва» яшчэ раней мела моцныя пазіцыі пры маскоўскім двары і было адным з варыянтаў вестэрнізацыі і мадэрнізацыі Расіі**

таксама памёр ад эпідэміі. І дзяўчынку падабраў яшчэ адзін пратэстанцкі святар — той самы Глюк з Марыенбургу.

Менавіта так выкладае біяграфію француз на рускай службе Франц (Мікіта) Вільбоа, чыя жонка была фрэйлінай Кацярыны. Зрэшты, марыенбургскі пастар быў чалавекам ва ўсім прагматычным. Дзяўчыну ён не ўдачарыў, грамаце не навучаў, выкарыстоўваў у якасці хатняй гаспадыні. Заўважыўшы ж адносіны паміж Мартай і іх сынам, якія пачалі нараджацца, сям'я пастара паспяшалася выдаць яе замуж за шведскага драгуна Іагана. Зрэшты, у шлюбе з драгунам маладая прабыла дзень або два: якраз пасля іх вяселля да Марыенбургу падышоў фельдмаршал Шарамецеў з рускай арміяй, і швед сышоў са сваім атрадам. А пастар Глюк у далейшым распарадзіўся Мартай Скаўронскай у «міратворчых» мэтах.

На карысць літвінскага паходжання Марты-Кацярыны можа казаць і факт, што, па некаторых дадзеных, у Балтыі ў яе была цётка Ганна-Марыя Весялоўская. Падобна, што служанка пастара Марта ад пачатку добра валодала рускай (або беларускай) мовай. І Шарамецеў, і Меншыкаў, і Пётр, вядома, размаўлялі па-нямецку, але наўрад ці б сталі абцяжарваць сябе размовамі з наложніцай на замежнай мове. Дарэчы, Аляксандр Меншыкаў, які падараваў дзяўчыну цару, сам, паводле адной з версій, быў з беларускай шляхты з-пад Оршы. Легенду, што «Аляксашка», які гандляваў піражкамі з заячыны, быў нізкага паходжання, магчыма, прыдумалі канкуруючыя са «светлым князем» маскоўскія баяры.

Першапачатковыя адносіны Пятра і яго новай палюбоўніцы былі таямніцай. Але паступова Пётр стаў выводзіць Кацярыну ў свет. Пры гэтым жанчына, якая да канца жыцця так і не навучылася чытаць і пісаць, уражвала ўсіх незвычайным розумам і развагамі ў многіх галінах жыцця.

Амаль ад самага пачатку Пётр, шчадралюбны і цынічны лавелас, моцна прывязаўся да Марты Скаўронскай. Пра прычыны гэтага казалі рознае. Напрыклад, што толькі яна магла суняць прыпадкі ў Пятра Аляксеевіча, напэўна, эпілептычнага паходжання. Спакойны і міралюбны характар Скаўронскай ураўнаважваў запальчывага і жорсткага Пятра. Менавіта Кацярыну прасілі заступіцца ў выпадку яго гневу або няласкі. Яна неаднаразова хадайнічала і за зладзеявата Меншыкава, і за апальнага сына першай жонкі царэвіча Аляксея. Але Пётр I перадаў правы атрымання трону сваім дзецям ад Кацярыны, у шкоду царэвічу Аляксею. Што шмат у чым і настроіла яго супраць Пятра, і скончылася, фактычна, забойствам: па загадзе бацькі, Аляксею пад выглядам «кровапускання» былі ўскрытыя чатыры вены, з-за чаго царэвіч сканаў.

### «Ратаўніца Айчыны»

Вядома, Марта Скаўронская найперш прывабіла Пятра як жанчына. Але, калі пакінуць за дужкамі алькоўны бок, можна



Каранацыя Кацярыны I

выказаць здагадку, што раман Пятра і Кацярыны меў і свайго роду ідэалагічны складнік.

Еўдакія Лапухіна, з якой Пятра ажанілі супраць яго волі, заставалася ўвасабленнем старой баярскай Русі. А Марта-Кацярына была, па-першае, яго свабодным выбарам. Па-другое — самім фактам сваіх нестандартных адносінаў з простай дзеўкай «рэвалюцыянер на троне» кідаў выклік патрыярхальным парадкам. Па-трэцяе — так ці інакш, але Марта прыйшла з Захаду, да якога так «зело» меў ласку Пётр. Але, у адрозненне ад яго папярэдняй каханкі, чыстай немкі з Кукуя Ганны Монс, Скаўронская са сваімі ВКЛаўскімі каранямі ўсё ж была нашмат бліжэй і самому цару, і двару. Заўважым таксама, што літвінскае «заходніцтва» яшчэ раней, у асобе таго ж Сымона Полацкага і іншых, мела моцныя пазіцыі пры маскоўскім двары і было адным з варыянтаў вестэрнізацыі і мадэрнізацыі Расіі. Выхадцы з Украіны Феафан Пракаповіч і Варлаам Ясінскі былі пастаўленыя Пятром і для рэфармавання маскоўскай праваслаўнай царквы.


Ганна Монс


Аляксандр Меншыкаў


Еўдакія Лапухіна

Хрышчоная Марта была па рыма-каталіцкім абрадзе, у сям'і ж пастара прыняла лютэранства. Пётр загадаў ёй перайсці ў праваслаўе, і пры новым хрышчэнні яна стала Кацярынай. Паводле некаторых дадзеных, да атрымання тытула «гаспадарыні» Марта-Кацярына лічылася фрэйлінай. Меркавана, у 1707 годзе Пётр і Кацярына таемна павянчаліся. Зрабіць гэты шлюб відавочным з прычыны неспрыяльнага грамадскага меркавання не мог нават такі люты самадзержац і пераможца шведаў, як Пётр Вялікі. Гэтак жа не ўсе манархі Еўропы згодныя былі прыняць Кацярыну ў свой «клуб» на роўных. Пётр здзейсніў са сваёй другой жонкай еўрапейскае турнэ ў Прусію, Саксонію, Данію і Галандыю. А вось тур у Францыю сарваўся. Герцаг Арлеанскі, які ведаў пра паходжанне Марты, спецыяльна прыдумаў для яе немагчымы рытуал.

Па іроніі лёсу, узвышэнню Кацярыны і канчатковай легалізацыі іх адносінаў з царом дапамог нешчаслівы Прутскі паход. Кацярына адправілася на вайну разам з мужам. Велізарная турэцкая армія акружыла рускі корпус. Пазбегнуць катастрофы атрымалася толькі падкупіўшы атаманскага вялікага візіра. Кацярына прыняла самы актыўны ўдзел у зборы сродкаў для хабару, асабіста ўгаворваючы ўсіх афіцэраў ахвяраваць свае грошы і каштоўнасці. З няўдалай экспедыцыі таемная царыца вярнулася ў арэоле «ратавальніцы Айчыны». Верагодна, гэта дазволіла ў 1712 годзе афіцыйна абвясціць шлюб паміж Пятром і Кацярынай.

Удзельнічала царыца і ў знясільваючым Персідскім паходзе Пятра і яго арміі ў 1722–1723 гадах.

Трэба сказаць, што яе царскі муж быў здатны на выдумкі і часам ладзіў жонцы сюрпрызы. У адзін з дзён Кацярына была запрошаная прысутнічаць на службовай аўдыенцыі ў цара. Адзін з просьбітаў, які звярнуўся да імператара, падаўся ёй вельмі знаёмым. Пётр падвёў маладога чалавека да царыцы, і загадаў: «Пацалуй край спадніцы яе і руку, як імператрыцы. І пацалуй яе пасля, як сваю сястру». Кацярына страціла прытомнасць: перад ёю стаяў яе родны брат Карл.

**Кацярыну I апісваюць як жанчыну досыць самастойную і моцную — як характарам, так і фізічна. Скаўронская падымала цяжкае маршальскае жазло Пятра на выцягнутай руцэ, што не маглі зрабіць многія маладыя мужчыны. Яна не вызначалася зграбнасцю, але была станістая, свежая, здаровая**

### Прыдворная «Санта-Барбара»

Аднойчы пасол Рэчы Паспалітай праязджаў з Масквы ў Дрэздэн ды спыніўся ў нейкім «брудным літоўскім мястэчку». Палавы, што мітусіўся побач з пасланнікам, палаяўся са сваімі калегамі, і бурчэў сабе пад нос нешта накшталт: «Ды я б толькі адно слова сваё царскім сваякам у Маскве шапнуў, і не зносіць вам, лайдакам, галоваў». Пасол жартам напісаў пра гэта ў лісце ў Расію. Пільныя царскія цэнзары прачыталі і далажылі, куды трэба. Пасля гэтага сам Пётр даручыў рыжскаму губернатару Рэпніну знайсці свайго швагра. У гэтай справе дапамогу імператару аказаў адзін з Сапегаў, які, нібыта, у сваім мінскім маёнтку і адшукаў беларускіх сваякоў расійскай імператрыцы. Падстава для спаткання з сястрой была знойдзеная ў духу часу — супраць Карла Самойлава-Скаўронскага распачалі справу, з нагоды якой ён і паехаў падаваць скаргу расійскаму цару. За гэтым і адбылося кранальнае спатканне Карла з венцаноснай сястрой.

Карл Скаўронскі быў адораны статусам камергера і маёнткамі, але быў пакінуты жыць у вёсцы ў сябе на радзіме.


Размова Пятра I і Кацярыны ў намёце пры Пруце. Гравюра

Па сведчанні асабістага лекара, Пётр I быў апантаны «цэлым легіёнам дэманаў юру». Ён не толькі не трымаў шлюбную вернасць, але яшчэ і распавядаў пра свае любоўныя прыгоды Кацярыне. Але пры гэтым дадаваў, што «яна — лепшая». У выніку ў імператрыцы таксама з'явіўся фаварыт — камергер Монс да ла Круа. Па іроніі лёсу, гэта быў брат былой палюбоўніцы Пятра Ганны Монс, якая цяпер стала прыдворнай дамай Кацярыны. Пятру данеслі пра гэта, і адносіны паміж мужам і жонкай былі цалкам сапсаваныя. Пётр быў так раз'юшаны, што ў адзін з вечароў уварваўся ў пакой, дзе займаліся з настаўніцай яго дочкі ад Кацярыны, і кідаючы дзікія позіркі, доўга хадзіў вакол іх з паляўнічым нажом. Бедная гувернёрка ўвесь гэты час прасядзела пад сталом.

А юны камергер быў проста абезгалоўлены — па абвінавачванні ў карупцыі. Пры гэтым Кацярыну цар павёз глядзець адсечаную галаву яе меркаванага палюбоўніка. Са сваёй першай жонкай Пётр абышоўся яшчэ горш. Еўдакія Лапухіна была сасланая ў манастыр, каб зрабіць магчымым шлюб Пятра з Мартай Скаўронскай. Але лад жыцця Лапухіна вяла зусім не схімніцы, і сышлася там з маёрам Сцяпанам Глебавым са старадаўняга баярскага роду. Разам са старарускай партыяй кінутая царыца і яе палюбоўнік быццам бы задумалі змову супраць Пятра. Але здрада была раскрытая. Пасля шматдзённых жорсткіх катаванняў Глебава пасадзілі на кол, дзе ён паміраў 14 гадзін.

Паведамляюць, што Еўдакію Лапухіну сілай прымушалі глядзець на гэтае пакутлівае пакаранне, не даючы заплюшчваць вочы і адварочвацца. Паводле легенды, нават пад катаваннямі Глебаў ні ў чым не прызнаўся, каб не зганьбаваць гонар царыцы. Перад смерцю Пётр, быццам, усімі святынямі рэлігіі заклінаў яго прызнацца. Але маёр назваў Пятра «пачварай» і плюнуў цару ў твар. Царква абвясціла анафему Сцяпану Глебаву. Як пасля і яго стрыечнаму прапраўнуку — Льву Талстому.

У лютым 1725 года, неўзабаве пасля пакарання смерцю камергера Монса, памёр і сам цар Пётр, які быў сапраўды вялікім як у сваіх пераўтварэннях, так і ў злачынствах. У Пецярбургу хадзілі чуткі, што яго атруцілі па падгаворванні Кацярыны. Але ж Вільбоа сцвярджае, што імператар памёр ад наступстваў ганарэі. Сам цар публічна заяўляў, што трыперам яго ўзнагародзіла генеральша Чарнышова, тая ж у слязах казала адваротнае. Але французскі адмірал на рускай службе не выключае нічога: «царыца Кацярына славілася жанчынай дастаткова спрытнай і смелай для таго, каб паспрабаваць хутка і любым спосабам адкараскацца ад абражанага і бязлітаснага мужа».

Пры падтрымцы Меншыкава Кацярына была абвешчана самадзяржыцай Расіі. Распавядалі, што яна забараняла хаваць цела мужа 40 дзён, і ўвесь гэты час аплаквала яго. І, нібыта, ад міязмаў труп заразілася і памерла іх маленькая дачка Наталля. На жыхарства ў Расію, нарэшце, быў выкліканы Карл Скаўронскі, хаця яго жонка-латышка плакала і не жадала ехаць. На іх дачцэ Соф'і Скаўронскай ажаніўся малады Сапега, які стаў адным з першых набліжаных імператрыцы. Але пераважным уплывам на царыцу, як і раней, працягваў карыстацца Аляксандр Меншыкаў.

Наогул, Кацярыну I апісваюць як жанчыну досыць самастойную і моцную — як характарам, так і фізічна. Скаўронская падымала цяжкае маршальскае жазло Пятра на выцягнутай руцэ, што не маглі зрабіць многія маладыя мужчыны. Па сведчанні сучаснікаў, яна не вызначалася зграбнасцю, але была станістая, свежая, здаровая. Твар яе, як сказалі б зараз, не быў фотагенічным — мастакі не маглі перадаць тое прыемнае ўражанне, якое яна выпраменьвала. Кацярына была выдатнай наезніцай і добра танчыла.

Яна нарадзіла Пятру 8 дачок. Але шэсць з іх памерлі яшчэ ў дзяцінстве.

Царыца была абыходлівая і мела добразычлівую манеру ў зносінах з навакольнымі. І ладную адвагу — у 1726 годзе пры набліжэнні да Рэвелю англійскай і дацкай эскадраў Кацярына асабіста хацела прыняць камандаванне над рускім флотам. Пры пастраенні Сямёнаўскага палка нехта стрэліў, і купец, які стаяў побач з ёй, упаў, як мёртвы. Імператрыца ж нават тварам не змянілася, і працягвала агляд гвардыі.

Кацярына I перажыла свайго мужа толькі на два гады. «5 траўня 1927 года ў палацы рускіх цароў спынілася выдатнае жыццё, якое пачалося ў хаце літвінскага селяніна і скончылася на адным з самых магутных прастолаў», — пісаў гісторык Андрэеў. Перад смерцю ў імператрыцы была моцная рвота, што таксама дало падставу для чутак аб атручванні.

Пасля смерці Марты-Кацярыны Скаўронскай сярод прыдворных разгарэлася спрэчка аб прастолапераемніцтве. «Аляксашка» Меншыкаў, не раз выратаваны ёю ад дубінкі Пятра, заявіў — дзеці Кацярыны, паколькі народжаныя яшчэ да шлюбу з царом, правоў на трон не маюць. Царом быў абвешчаны сын апальнага царэвіча Аляксея Пётр II, а рэгентам пры ім — усёмагутны Меншыкаў. Улада яго праз кароткі час таксама ўпала, і сам царадворац сканаў у высылцы. Дачка Кацярыны I Лізавета Пятроўна ўсё ж узышла на трон у 1741 годзе. Але ўсё XVIII стагоддзе Раманавы вялі жорсткую барацьбу за ўладу паміж сабою, вынікам якой былі тры забітыя законныя манархі і адзін прастолапераемнік. Сярод іх — і ўнук Кацярыны I цар Пётр III, задушаны п'янымі дваранамі-гвардзейцамі дзеля ўзыходжання Кацярыны II. Такі ж лёс напаткаў і яе праўнука — Паўла I.

7 лютага 2020 | № 5 (664) Новы Час

# Марыя Гулегіна: «У Беларусі я дома»

Кацярына ЯРОМІНА

**На сцэне Вялікага тэатра Беларусі адбыўся сольны канцэрт Марыі Гулегінай. Сапраўдная прыма сусветнай опернай сцэны, славутае драматычнае сапрана «з вердзіеўскай музыкай у крыві» выступіла ў Мінску ўпершыню за амаль 30 гадоў.**



У спявачцы адчуваецца моц і непахіснасць у адносінах да творчасці і не толькі, па-чалавечы падкупляе шчырасць, пяшчота ды захапленне, з якімі яна распавядае пра сваю сям'ю, дом у Люксембургу і сабраны сёлета багаты ўраджай баравікоў, а яшчэ — дзівоснае пачуццё гумару. «Дзяўчыну можна вывезці з Адэсы, але Адэсу з дзяўчыны — ніколі», — смяецца спадарыня Гулегіна, якая нарадзілася і правяла сваё юнацтва ў гэтым горадзе.

Зорка Марыі Гулегінай узышла на мінскай сцэне ў 1980-я гады, калі пасля праслухоўвання на конкурсе імя Чайкоўскага яе запрасіла ў Беларусь Народная артыстка СССР Святлана Данілюк.

«Я вельмі ўдзячная, што ў маім жыцці была Святлана Філіпаўна, якая абяцала мне непачаты край работы і хадзіла ў міністэрства, выбівала, каб у тэатр узялі такую салістку», — кажа сёння Марыя Гулегіна і дадае, што менавіта ў Мінску адбывалася яе творчае станаўленне.

З 1983 года спявачка пачала працаваць у Вялікім тэатры Беларусі і вельмі хутка ў яе рэпертуары з'явіліся Разіна («Севільскі цырульнік» Дж. Расіні), Джыльда і Элізавета («Рыгалета» і «Дон Карлас» Дж. Вердзі), Таццяна («Яўген Анегін» П. Чайкоўскага)… Разам з поспехамі на міжнародных конкурсах вакалістаў прыйшло міжнароднае прызнанне. У 1987 годзе Гулегіну запрасілі ў Ла Скала, дзе яна спявала Амелію ў «Балі-маскарадзе» Вердзі. Яе партнёрам быў Лучана Паваронці. У тым жа годзе яна атрымала званне Заслужанай артысткі БССР.

Такі магутны ўзлёт і паспяховая кар'ера маладой спявачкі прыйшліся даспадобы не ўсім, як і смелая ініцыятыўнасць Гулегінай, якая спрабавала пераканаць калег у тым, што спяваць оперы патрэбна на мове арыгіналу. Гэта сёння мы прызвычаіліся, што Вердзі гучыць па-італьянску, а Бізэ — па-французску, а напрыканцы 1980-х гадоў уся замежная опера ішла выключна на рускай мове. Плёткі, дэманстрацыйныя сыходы калег са сцэны падчас рэпетыцый сталі ўвярцюрай да напісанага ў ЦК адкрытага ліста, дзе артысты оперы заяўлялі аб сваім нежаданні працаваць разам з Гулегінай. Спявачка пачала страчваць замежныя кантракты, бо Дзяржканцэрт проста не рабіў ёй дакументы, скарачаўся яе рэпертуар у тэатры. У такіх умовах ад'езд для Гулегінай стаў натуральным рашэннем. Дзякуючы свайму агенту, які зрабіў візы і дакументы для сям'і спявачкі, у 1990 годзе яна з'ехала ў Германію.

У Мінск пасля гэтага Марыя Гулегіна прыязджала толькі два разы: у 1992 годзе на дабрачынны канцэрт у дапамогу пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы і ў 2010 як пасол добрай волі UNICEF.

Прычына таго, што сёлетні канцэрт стаўся першым за такі доўгі час, па словах спадарыні Гулегінай, у першую чаргу ў несупадзенні жаданняў і магчымасцяў, у яе напружаным графіку, які застаецца такім нават пасля перанесенай спявачкай у 2015 годзе кардыялагічнай аперацыі. Толькі ў лютым акрамя Мінска яна будзе спяваць у Марыінскім тэатры, Бухарэсце, Сафіі.

Праўда, на пытанне наконт магчымасці працягнуць педагагічную дзейнасць (падчас работы ў Вялікім тэатры Беларусі спявачка таксама выкладала ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі) яна цвёрда адказвае: «Пасля здрады маіх вучняў я ўрокаў не даю».

Прыма, якая працуе на лепшых сусветных сцэнах, называе Беларусь сваім домам.

«Канечне, я нарадзілася ў Адэсе, але тут мяне выхавалі, гэта мая ўзлётная паласа і калыска, дзе мяне вучылі. І ў мяне таксама ёсць тры кроплі беларускай крыві: продкі прабабулі па мацярынскай лініі — Міклашэвічы з Белавежскай пушчы. Так што выбачайце, але я дома», — смяецца спявачка.

З цеплынёй яна ўзгадвае тэатр і спектаклі, у якіх была занятая: «У Мінску былі цудоўныя пастаноўкі. Я спявала ў Маргарыты Ізворскай у "Доне Карласе" і "Севільскім цырульніку", вельмі любіла гэтыя спектаклі. Геніяльная была "Карміна Бурана". А якія танцоўшчыкі! Таня Шэметавец, Іна Душкевіч!.. Складана было стаяць на сцэне і штосьці спяваць, калі Шэметавец побач танцуе».

«Я не разумею, калі спяваюць па нотах, калі раз-два — сабраліся і зрабілі канцэрт рамансаў, як у караоке. Усё павінна быць пражыта і зроблена», — кажа яна.

Марыя Гулегіна ўпэўненая, што спяваць оперу магчыма толькі калі ты ведаеш мову твора як сваю (сама яна акрамя рускай, беларускай і ўкраінскай валодае англійскай, італьянскай, нямецкай мовамі), імкнецца знайсці нават у адмоўных персанажах штосьці чалавечае і ніколі не выконвае творы, якія «не ляглі на душу», а пра эканомію эмацыянальных і вакальных рэсурсаў на сцэне выказваецца проста: «Гэта не для нас».

Падчас свайго канцэрта ў Вялікім тэатры Беларусі Марыя Гулегіна выконвала выключна італьянскую оперу. Такі выбар яна тлумачыць проста: «Гэту праграму я вырашыла рабіць з маэстра Веранэзі (за пультам 1 лютага будзе стаяць дырыжор Альберта Веранэзі), а паколькі ён італьянец, то мы вырашылі спяваць італьянскую музыку. Магчыма, калі-небудзь я прыеду з рускай праграмай, але ў адным канцэрце, разам, гэта добра не атрымаецца. Гэта розная манера, і голас трэба настройваць на нешта адно».

Цяжка сказаць, ці стане канцэрт Марыі Гулегінай пачаткам яе супрацоўніцтва з Вялікім тэатрам Беларусі, але яго мастацкі кіраўнік Валянцін Елізар'еў на прэс-канферэнцыі агучыў, што ў тэатры ёсць ідэя запрасіць спявачку выступіць у Мінску ў адным са спектакляў.

Сама ж Марыя Гулегіна кажа: «Свае выток трэба памятаць. Таму, канечне, я хачу вяртацца ў Беларусь і спяваць. Хачу паказаць, што я нагуляла за гэты час у майстэрстве і падзяліцца гэтым, пакуль я яшчэ спяваю».

# БагатаДата

**Гэтыя дні можна назваць «тыднем мастацтва» ў нашай краіне, бо нарадзіліся мастакі, пісьменнікі, драматургі, архітэктары, акцёры… Хто? Чытайце ў нашым аглядзе!**

## 8 лютага

**1810.** У мястэчку Ула Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці нарадзіўся Іван Хруцкі, мастак, які лічыцца заснавальнікам жанру акадэмічнага нацюрморта ў беларускім жывапісе. Яго карціны — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Траццякоўскай галерэі ў Маскве і Нацыянальным музеі ў Варшаве.

## 9 лютага

**Міжнародны дзень стаматолага.**

**1930.** У Мінску нарадзіўся пісьменнік Валянцін Тарас. Вядомы ў тым ліку як аўтар тэкстаў большасці песень для канцэртнай праграмы «Праз усю вайну» ансамбля «Песняры». Пераклаў на рускую мову раман «Восень патрыярха» Габрыеля Гарсія Маркеса і «Доўгую дарогу дадому» Васіля Быкава. За савецкім часам Тарас пацярпеў ад рэпрэсіяў як дысідэнт.

## 10 лютага

**1940.** Пачалася першая з чатырох хваляў дэпартацыі часткі насельніцтва Заходняй Беларусі, далучанай да СССР. У Сібір ды Казахстан у тым лютым эшалонамі вывезлі 50 тысяч чалавек. Перадусім гэта былі былыя леснікі, польскія дзяржслужбоўцы, сем'і вайскоўцаў, у асноўным палякі па нацыянальнасці.

## 11 лютага

**Сусветны дзень хворага.**

**1875.** У Вільні нарадзіўся знакаміты артыст савецкага тэатру Васіль Качалаў — беларус па паходжанні з сапраўдным прозвішчам Шверубовіч. Дарэчы, вядомы радок «Дай, Джим, на счастье лапу мне…» з верша Сяргея Ясеніна «Сабаку Качалава», напісаны пра гадаванца нашага акцёра-суродзіча.

## 12 лютага

**Сусветны дзень навукі і гуманізму (або Дзень Дарвіна).**

**1910.** У Вільні адбылося першае выступленне тэатральнай трупы Ігната Буйніцкага, які лічыцца заснавальнікам нацыянальнага прафесійнага тэатру. Былі паказаныя некалькі танцавальных нумароў.

«Публіка проста адурэла, усе бясконца крычалі: "Брава, біс!" Па 3–4 разы прыйшлося танцаваць адзін танец. Танцоры, хлопцы і дзяўчаты, пад кіраўніцтвам Буйніцкага падабраліся такія, што аж сцэна грымела ад заліхвацкага тупату і ў вачах мільгацела, як танцавалі «Лявоніху», «Мяцеліцу» або калі дзесяць прыгожа апранутых пар завіваліся даўгім хвастом у «Вераб'і», — пісала тагачасная «Наша ніва».

Выступленні адбыліся ў межах так званай Першай беларускай вечарынкі, на якую прыйшла аж тысяча гледачоў.

**1930.** У Мінску нарадзіўся архітэктар Вальмен Аладаў. Пэўны час быў старшынёй Саюза архітэктараў БССР. Асноўныя працы — Камароўскі крыты рынак у Мінску, жылыя дамы на рагу праспекта Незалежнасці і вуліцы Казлова, універсам «Цэнтральны», спартовы комплекс «Раўбічы».

## 13 лютага

**Сусветны дзень радыё.**

**1705.** У мястэчку Чартарыйск (цяпер Валынская вобласць Украіны) нарадзілася беларуска-польская пісьменніца Францішка Уршуля Радзівіл. Першая жанчына-драматург у ВКЛ. Паходзіла з княжацкага роду Карыбут-Вішнявецкіх. Яе муж — Міхал Казімір Радзівіл «Рыбанька», найбагацейшы магнат Рэчы Паспалітай у той час. Паколькі ён часта адсутнічаў у Нясвіжы па дзяржаўных справах, то шмат чаго выпадала там рабіць Францішцы Уршулі. У тым ліку курыраваць аднаўленне замка пасля разбуральных войнаў са Швецыяй і трымаць абарону горада супраць расійскага нашэсця. Захапілася тэатрам і пачала пісаць п'есы. Пастаноўкі адбываліся на сцэнах розных радзівілаўскіх сядзібаў. Напачатку 2000-х гадоў выйшла кніга яе драматургіі ў беларускім перакладзе.

**1955.** У Мінску нарадзіўся Рыгор Васілевіч, былы старшыня Канстытуцыйнага суда і генеральны пракурор Беларусі.

## 14 лютага

**Дзень святога Валянціна (або Дзень закаханых),** а таксама **Сусветны дзень дарэння кніг.**

**1800.** У вёсцы Калюжыцы Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся мастак Валянцін Ваньковіч. Адна з яго вядомых карцін — «Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг». На руках паэта мастак і памёр ад сухотаў у Парыжы. У Мінску дзейнічае дом-музей Ваньковічаў (вуліца Інтэрнацыянальная, 33а) — помнік палацава-паркавай архітэктуры эпохі класіцызму: там экспануюцца архіўныя дакументы, фотаздымкі работ Валянціна Ваньковіча. Каля музея ўсталяваны помнік мастаку.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №215

Падпісана да друку 07.02.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.